перааценіць значэнне гэтых слоў любві і замілаванасці да роднага краю.

Скарына ў сваёй прадмове падкрэслівае патрыятызм Юдзіфі, ён хоча, каб «в добрых делех и в любви отчины не толико жены, но и мужи наследовали и всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали». На сваё выданне «Бібліі» ён глядзеў як на сродак распаўсюджання пісьменнасці, абуджэння ў людзей любві да роднай зямлі і роднай мовы. Паказальным з'яўляецца тое, што Скарына выдаваў кнігі не на старaславянскай, а на тагачаснай беларускай мове. Выданне кніг на беларускай мове было па сутнасці геройскім учынкам, бо ні каталіцызм, ні праваслаўе не глядзелі на гэта прыхільна: каталіцызм трымаўся за мёртвую латынь, праваслаўе — за стараславянскую мову. Крыху пазней праваслаўны артадокс рускі эмігрант князь Курбскі вельмі варожа ставіўся да «Бібліі» Скарыны па той прычыне, што яна была выдадзена на народнай мове. Вядома, што нават далёка не ўсе тагачасныя гуманісты Еўропы ўзнімаліся да разумення значэння народнай мовы ў развіцці культуры; для многіх з іх (Эразм Ратардамскі, Томас Мор, Кампанела і інш.) латынь так і засталася адзінай мовай пісьменнасці.

Выданне Скарынай кніг на беларускай мове паказвае яго вялікую настойлівасць і сілу волі, бо пераадолець вякамі існаваўшыя традыцыі было вельмі цяжка. Скарына выдаваў кнігі насуперак існаваўшым традыцыям, бо ўжо нават у канцы XV ст. стараславянская мова была малазразумелай. Ён заяўляў: «Не многым учителем бывати, но более умети язык свой справовати». Гэтым самым Скарына выражаў самасвядомасць беларускага народа, быў першым дзеячам беларускай культуры, які свядома ўвёў у пісьмовы ўжытак родную мову.

Да перакладу Францыск Скарына ставіўся вельмі свабодна, ён выкарыстоўваў нават некалькі крыніц, прычым рознага напрамку — праваслаўнага і каталіцкага. Асноўнымі крыніцамі ў яго былі тры: так званая «Вульгата» на лацінскай мове, «Чэшская біблія» 1506 г. на чэшскай мове і рукапісныя спісы «Бібліі» на стараславянскай мове.

Асноўнай крыніцай ведаў для чалавека Францыск Скарына лічыў «Біблію». Іменна таму ён і пачаў яе выдаваць.

Вядома, што «Біблія» складалася ў розны час рознымі людзьмі; у яе склад уваходзіць больш шасці дзесяткаў кніг самага разнастайнага зместу. І таму важна адзначыць, што Скарына ў першую чаргу выдаваў тыя кнігі «Бібліі», якія, на яго думку, больш прынясуць практычных ведаў для «паспалітага люду». У прадмове ён канкрэтна ўказваў, што яго кнігі прызначаліся «людем простым посполитым к пожитку и ко размножению добрых обычаев», «ко учению и ко обличению, исправлѣнию и ко наказанию правды» і інш.

Найбольш важнымі для чалавека Скарына лічыў «сем свободных навук»: граматыку, рыторыку, логіку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію і музыку. У прадмове да ўсёй «Бібліі» ён шырока прапагандуе гэтыя навукі, гаворыць, якое значэнне яны маюць у практычным жыцці чалавека. Наогул Скарына цікавіўся «Бібліяй» не з боку яе рэлігійнага зместу; для яго было важна, наколькі гэта кніга будзе карыснай для людзей. Сапраўды, многія кнігі «Бібліі» рэлігійнымі можна назваць вельмі ўмоўна. Напрыклад, такія кнігі, як «Юдзіф», «Эсфір», «Руф», па свайму зместу вельмі нагадваюць сярэдневяковыя раманы тыпу «Александрыі» або «Троі». У іншых кнігах «Бібліі», такіх, як «Еклесіяст», «Іоў» і інш., выкладзены філасофскія і грамадска-палітычныя погляды ідэолагаў рабаўладальніцкага

ладу. Большасць жа кніг «Бібліі», акрамя чыста рэлігійных дактрын, змяшчаюць цікавыя звесткі з гісторыі старажытных плямён Бліжняга Усходу (кнігі «Царстваў», «Параліпаменон», «Выхад» і інш.).

Пэўнае пазнавальнае значэнне «Бібліі» Скарына падкрэслівае і ў прадмовах. Так, у прадмове да кнігі «Юдзіф» ён коратка расказвае пра гісторыю асірыйскага царства, дае пералік найбольш відных асірыйскіх цароў і палкаводцаў. Скарына лічыў, што ў біблейскіх кнігах ёсць шмат рэальных звестак, якія неабходны чалавеку ў практычным жыцці. Зыходзячы з гэтага, ён прапануе ваенную справу вывучаць па кнігах «Махавеяў» і «Суддзяў», арыфметыку — па кнізе «Лічбы», геаметрыю — па кнізе «Ісус Сірахаў», граматыку — па «Псалтыру» і г. д.

Пры азнаямленні з прадмовамі Скарыны відаць, што ён добра ведаў антычную культуру. У яго прадмовах ёсць спасылкі на «мудрасць» Арыстоцеля, якога ён лічыў самым вялікім філосафам антычнай Грэцыі. Займаючыся ва універсітэтах, Скарына пазнаёміўся, безумоўна, не толькі з творамі Арыстоцеля, але і іншых пісьменнікаў і філосафаў антычнага свету. Найбольш выдатныя антычныя пісьменнікі сваімі ідэямі зрабілі пэўны ўплыў на фарміраванне светапогляду Францыска Скарыны. У прыватнасці, у поглядах на мараль і права Скарына, як і многія іншыя дзеячы эпохі Адраджэння, у многім абапіраўся на антычную мараль і антычнае права. Ён у сваіх прадмовах дае кароткую характарыстыку права ваеннага, марскога, купецкага, адміністрацыйнага, царскага і інш., тлумачыць значэнне і ролю кожнага з іх.

Безумоўна, Скарына не мог узняцца да адмаўлення феадальна-прыгонніцкай сістэмы, адмаўлення манархіі. І ў гэтых адносінах яго дзейнасць пераклікаецца з дзейнасцю многіх гуманістаў Еўропы.

Вядома, што Скарына быў выхадцам з небагатай купецкай сям'і. І хоць купецтва ў пачатку XVI ст. было эканамічна неаднародным, у цэлым гэта быў прагрэсіўны клас, які імкнуўся адабраць у царквы права на адукацыю народа, адсунуць на задні план клас феадалаў. Дзейнасць Скарыны ў пэўнай ступені была адлюстраваннем гэтых патрабаванняў маладой буржуазіі.

Побач з тым трэба падкрэсліць, што Скарына, як і кожны вялікі чалавек, значна перарос рамкі свайго класа. Прапаведзь усеагульнай роўнасці, прапаганда асветы, любоў да «паспалітага люду» дае падставы назваць яго выразнікам настрояў мас гарадской беднаты і нават сялянства. Безумоўна, спадзявацца на вялікія змены ў грамадстве Скарына не мог, паколькі клас, да якога ён належаў, быў яшчэ вельмі нешматлікі і слабы. А таму Скарына выбраў шлях мірнага паляпшэння жыцця, асветы народа.

Для пропаведзі роўнасці, справядлівасці і гуманнасці Скарына спасылаецца на «Біблію». Ён лічыць, што справядлівасць і роўнасць у многім залежаць ад волі манарха. Манарх, на думку Скарыны, павінен клапаціцца аб сваіх падданых, быць мудрым і справядлівым. Такіх манархаў Скарына шукае ў старажытнасці, расказвае пра іх у сваіх прадмовах. Для яго ідэалам была антычная дэмакратыя, дзяржава з мудрым, справядлівым і асвечаным манархам, які ва ўяўленні Скарыны не быў падобным на феадальных правіцеляў. Гэта, гаворыць Скарына, біблейскі цар Саламон, які «не просил... собе дней многих, ни богатства, ни же душ врагов», а «жадал еси собѣ мудрости к научению судов»; гэта егіпецкі цар Пталамей, які выпрасіў «оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах». У прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» Скарына расказвае, як пад кіраўніцтвам Пталамея была засна-

вана ў Александрыі бібліятэка, якая стала крыху пазней вядома ўсяму антычнаму свету. На думку Скарыны, такія манархі, як Пталамей, што дзейнічаюць у інтарэсах міру, навукі, клапоцяцца аб лёсе сваіх падданых, з'яўляюцца ідэальнымі. Скарына хоча, каб закон быў «почтивый, справедливый, можный, потребный, пожиточный подлѣ прироження, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий».

Наогул Скарына адрознівае два віды законаў: «няпісаныя» і «пісаныя». Ён лічыць, што спачатку людзі жылі толькі па «няпісаных» законах узаемнай павагі, давер'я, справядлівасці. Пазней жа некаторыя людзі пачалі пагарджаць «няпісанымі» законамі, абыходзіць іх. У выніку ўзніклі войны, у людей з'явілася зайздрасць, хцівасць і г. д. Каб абараніць асноўную масу людзей ад гэтых злоўжыванняў, былі створаны законы «пісаныя». На яго думку, закон павінен «не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написанный», гэта значыць быць заснаваным на прынцыпах дабра, справядлівасці, узаемнай павагі.

Скарына падзяляе погляд першых хрысціян, што для ўсіх павінна быць роўная свабода і ўсе павінны карыстацца аднолькавымі дабротамі. Гэта думка ў яго гучала як абвінавачанне феадальнаму ладу, дзе ні пра якую роўнасць не магло быць гутаркі. Наадварот, прапаганда ўсеагульнай роўнасці ва ўмовах феадалізму магла паслужыць штуршком для антыфеадальных выступленняў з боку прыгнечаных класаў, тым больш, што ўсіх, хто адступаў ад гэтага раннехрысціянскага прынцыпу роўнасці, Скарына называў ворагамі хрысціянства.

Узнікае пытанне, чаму ў сваіх прадмовах Скарына ўдзяляе шмат увагі пытанням маралі і права. Адказ на гэта трэба шукаць у грамадска-палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага. Агульнавядома, што яшчэ ў

XV ст. два найбольш значныя гарады — Вільня і Полацк атрымалі Магдэбургскае права. У XVI ст. гэта права атрымалі і многія іншыя гарады. Зразумела, што гарадское самакіраванне садзейнічала дэмакратызацыі грамадства, зацікаўленасці людзей пытаннямі правоў і абавязкаў чалавека ў грамадстве і дзяржаве. У сувязі з гэтым і Скарына праяўляе значную цікавасць да таго, якія правы чалавек павінен мець у грамадстве і якія ў яго абавязкі перад грамадствам. Гэтыя пытанні Скарына вырашае з дэмакратычных пазіцый. Так, ён гаворыць, каб суддзі адносіліся да падсудных як да роўных сабе, каб «не справовали суть их, яко цари или властели вышнии, силу имеюще над ними, но яко ровнии и товарищи, раду им даючи и справедливость межи ними чинячи». Суддзі не павінны ўхіляцца на «жадную страну», браць хабару, бо «даровѣ ослепяють очи мудрых людей, изменяють слова справедливых». І ў гэтым выпадку «Біблія» па сутнасці стала для Скарыны сродкам антыфеадальнай прапаганды, паколькі ў тыя часы «нізы» ў Вялікім княстве Літоўскім былі амаль што пазбаўлены элементарных правоў.

Сваёй дзейнасцю Скарына ў пэўнай ступені выражаў імкненні «нізоў». Ён лічыў віноўнікамі сацыяльнай няроўнасці царкву і свецкую ўладу, хоць пра канкрэтныя формы барацьбы ў яго няма ні слова.

Скарына верыць у сілу чалавечага розуму, у здольнасці чалавека, ён з адкрытай варожасцю ставіцца да царкоўнай маралі пакоры і самаадрачэння. М. Алексютовіч слушна сцвярджае, што Ф. Скарына «падыходзіў да прызнання таго, што крытэрыем ісціны ў працэсе пазнання з'яўляецца розум, і што таму ўсякае палажэнне, у тым ліку і біблейскае, павінна быць асэнсавана, узважана на вагах розуму, а не прымацца на веру» [1].

[1] М. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958, стар. 97—98.

Погляды на рэлігію ў Скарыны былі таксама супярэчлівыя, як і ў іншых гуманістаў, бо жылі яны ў пераходны перыяд, калі ідэалы буржуазіі яшчэ толькі фарміраваліся, а сама буржуазія была яшчэ вельмі цесна звязана з феадаламі. Таму гуманісты не маглі адмовіцца ад рэлігіі, былі звязаны матэрыяльна з багатымі мецэнатамі.

У прадмовах Скарыны мы не знойдзем адмоўных выказванняў у адрас царквы. У той жа час ён нідзе не выступае і ў яе падтрымку. Як і большасць гуманістаў Еўропы, Скарына далёкі ад атэізму. Аб'ектыўна ж яго выдавецкая дзейнасць была накіравана супраць царкоўнай практыкі, бо падрывала яе манапольнае права на асвету людзей, права быць суддзёй над чалавечымі душамі. І ў гэтых адносінах Скарына з'яўляўся чалавекам сваёй эпохі, які практычнай дзейнасцю належаў будучаму, але погляды якога ў некаторых аспектах былі звязаны з мінулым.

Такая дваістасць характэрна і для Скарыны, хоць вельмі важна ўжо тое, што ён, не адмаўляючы служэнне богу, падкрэсліваў абавязкі чалавека перад грамадствам і дзяржавай.

Як каталіцкая, так і праваслаўная царква вучыла, што кнігі «Бібліі» пісаліся выбранымі прарокамі па ўнушэнню бога. Інакш кажучы, і каталіцкая і праваслаўная цэрквы звязваюць напісанне «Бібліі» непасрэдна з боскай асобай.

Скарына ж сістэматычна адзначае, дзе, калі, кім і па чыйму даручэнню пісалася тая ці іншая кніга «Бібліі». Напрыклад, «Прамудрасць» «писал есть Филон Философ греческим языком... И писал ест ея... во врѣмена Пътоломея Филопатера, царя Египетскаго, он же был шестый царь по Александре Великом Макидонском». Кнігі «Царстваў» пісалі «летописцы царей Июдиных», кнігі «Юдзіф», «Данііла-прарока» і «Ездры» «еврейскими сло-

вами, но халъдейским языком наипервей от летописцев написана ест». Сам таго, мабыць, не жадаючы, ён зрывае з гэтых кніг арэол святасці, ідзе ў прамую супярэчнасць з хрысціянскай царквой.

Скарына друкаваў свае кнігі без благаславення царквы, чым выклікаў вялікае незадавальненне царкоўнікаў, бо паміж рэлігійнымі догмамі і царкоўнай практыкай існавала велізарная розніца. Калі ж «Біблія» трапляла ў рукі свецкіх людзей, то ім адразу кідалася ў вочы неадпаведнасць паміж пропаведдзю ранніх хрысціян усеагульнай роўнасці і сучаснай ім царкоўнай практыкай. Гэта таксама паслужыла адной з прычын варожых адносін духавенства да выдавецкай дзейнасці Скарыны.

Скарына, як і многія дзеячы эпохі Адраджэння, разумеў, што любую думку, палажэнне (у тым ліку і рэлігійнае) трэба правяраць логікай чалавечага розуму. Да адмаўлення рэлігіі, да атэізму, як і яго сучаснікі-гуманісты, Скарына не ўзняўся, у яго поглядах былі і моцныя бакі і абмежаванасць мыслення, абумоўленая асяроддзем і часам.

Грамадскія погляды Скарыны таксама супярэчлівыя і неакрэсленыя. З аднаго боку, ён адкрыта сімпатызуе «паспалітаму люду», прапаведвае роўнасць усіх перад законам, перакладае іменна для яго на родную мову «Біблію». З другога боку, мы не знойдзем у яго прадмовах ніводнага слова асуджэння феадальнай сістэмы ў цэлым. Ён хоча толькі «палепшыць» гэты лад, ліквідаваць асобныя недахопы. Пра карэнную перабудову грамадства Скарына пытанняў не ўзнімаў, больш таго ў асобных выпадках ён нават заклікаў да прымірэння і пакорлівасці, абяцаючы, што віноўніка таго ці іншага злачынства пакарае сам бог.

Мэта маральнага ўдасканалення людзей кіравала дзейнасцю Скарыны, вызначала яго светапогляд.

Прычым гэту сваю мэту ён распаўсюджвае і на багатых, і на бедных, лічыць, што багатыя павінны быць літасцівымі да бедных, а бедныя з належнай пашанай адносіцца да багатых. Недахопы людзей Скарына тлумачыць не сацыяльнымі ўмовамі, а іх прыроднымі якасцямі. Патрабаванні адмаўлення ад багацця гучалі абвінавачаннем у адрас царквы і свецкай улады, бо просты народ жыў бедна і крытыка была накіравана не ў яго адрас. Скарына крытыкуе тых, хто «на свет не принесоша, так и с собою не возмут», прызнае адзінае багацце «чинити добрая дела и в них богатитися». Ён верыць, што грамадскі прагрэс наступіць тады, калі «подобреют» начальнікі і наогул багатыя людзі. Думкі Скарыны, што кожны чалавек ад нараджэння мае аднолькавае права, былі выражэннем яго поглядаў на чалавека наогул. Ён лічыў, што ўсе людзі ад нараджэння надзелены аднолькавымі задаткамі, і тым самым пратэставаў супраць сцверджанняў царкоўнікаў, што нібыта сам бог падзяліў людзей на багатых і бедных. У сваёй жа практычнай дзейнасці ён хацеў згладзіць супярэчнасці як паміж прадстаўнікамі розных класаў, так і паміж класамі ў цэлым.

Адносіны да грамадства ў Скарыны таксама неакрэсленыя. Гэта неакрэсленасць у значнай ступені звязана з тым, што Беларусь у тыя часы ў сваім грамадскім развіцці ўступала краінам Заходняй Еўропы. У Беларусі адсутнічалі такія ўмовы, калі можна было б узняць узброеную барацьбу супраць феадальнага ладу, як у Германіі, дзе з'явіўся выдатны сялянскі правадыр Томас Мюнцэр.

Паказальныя адносіны Скарыны да розных народаў. Ён, як і іншыя гуманісты Еўропы, прапаведаваў роўнасць народаў. Напрыклад, Скарына піша: «Християнство наше не толико именем и крещением, но братолюбием и незлобием совершается».

Не супрацьстаўляе Скарына і людзей розных веравызнанняў, што сістэматычна практыкавалася каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі. Ён лічыў, што і «заблуждающиеся» хрысціяне і «истинные» — дзеці аднаго бога і няма розніцы паміж імі. Больш таго ён з павагай ставіўся нават да язычнікаў. На думку Скарыны, усе народы маюць аднолькавыя правы. Зыходзячы з гэтага, ён лічыць, што і мовы ўсе раўнапраўныя паміж сабою.

Скарына ўвайшоў у гісторыю нашай культуры перш за ўсё як кнігадрукар, асветнік і гуманіст. Сваёй дзейнасцю ён аказаў вялікі ўплыў на развіццё друкавання ў пазнейшыя часы не толькі ў Беларусі, але і ў суседніх краінах Ёсць слушныя меркаванні, што Скарына пераклаў на беларускую мову ўсю «Біблію», у тым ліку і «Новы запавет». У свой час у розных бібліятэках і кнігасховішчах Расіі, Украіны, а таксама ў Вільні былі знойдзены рукапісы многіх кніг «Бібліі» ў перакладзе на беларускую мову. У адных выпадках мова рукапісаў амаль поўнасцю супадае з мовай выданняў Скарыны, у другіх ёсць большыя ці меншыя разыходжанні. Некаторыя з рукапісаў асобных кніг «Бібліі» маюць прадмовы, якія поўнасцю супадаюць з прадмовамі Скарыны, нават называюць яго імя.

У рэчышчы кнігадрукарскай традыцыі Скарыны ў другой палавіне XVI ст. развівалі на Беларусі сваю дзейнасць выдатныя прадстаўнікі Рэфармацыі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Яны ў сваіх прадмовах тлумачаць сэнс і прызначэнне кніг і ў гэтым ідуць услед за Скарынай.

Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец развівалі сваю выдавецкую дзейнасць таксама пад відавочным уплывам Скарыны. У 1564 г. яны распачалі выдавецкую дзейнасць у Маскве, але хутка ў сілу неспрыяльных тэм умоў былі вымушаны пераехаць у Беларусь. Пасля кароткатэрміновага знаходжання ў Заблудаве Фёдараў

накіраваўся на Украіну і там з дапамогай князя Астрожскага заклаў асновы ўкраінскага кнігадрукавання. Мсціславец яшчэ раней апынуўся ў Вільні і тут узяўся за арганізацыю друкарні разам з братамі Мамонічамі. Хутка пасля гэтага сляды Мсціслаўца губляюцца. Друкарня Мамонічаў, наследаваўшы лепшыя традыцыі Скарыны, існавала да 1623 г. і за гэты час выдала вялікую колькасць разнастайных кніг.

У другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. друкарні на Беларусі перыядычна існавалі ў Вільні, Нясвіжы, Брэсце, Заблудаве, Цяпіне, Слуцку, Магілёве, Мінску, Супраслі і г. д. Яны выпусцілі сотні кніг рознага жанру з рознымі мэтамі. Ля вытокаў жа беларускага кнігадрукавання стаяў выдатны дзеяч першай палавіны XVI ст. Францыск Скарына. Вучоны, патрыёт і гуманіст, ён назаўсёды ўвайшоў у гісторыю не толькі беларускага, але славянскага ў цэлым і нават еўрапейскага кнігадрукавання.

## ЛІТАРАТУРНА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЯ СПАДЧЫНА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Аб дзейнасці Скарыны як вучонага, мысліцеля, філолага, перакладчыка, асветніка і друкара існуе шматлікая літаратура [1]. Праўда, у сваёй пераважнай большасці

[1] Агляд і ацэнка крытычнай літаратуры пра Скарыну да 1925 г. ёсць у артыкуле У. І. Пічэты «Скарыніяна» (гл. «400-лецце беларускага друку». Мінск, 1926). Дакладная і найбольш поўная бібліяграфія даваеннага часу змешчана ў даследаванні А. В. Флароўскага (гл. Sbornik filologicky. Vydava III trida. Česke Akademie Věd a Umění. Svazek XII, v Praze, 1940—1946. стар. 153—259). Пазнейшая бібліяграфія ёсць у кнізе М. А. Алексютовіча і ў артыкуле А. В. Флароўскага «Скарыніяна» (гл. «450 год беларускага кнігадрукавання». Мінск, 1968).

яна прадстаўлена невялікімі артыкуламі і нататкамі, у якіх даецца агульны агляд яго грамадскай, культурнай і асветніцкай дзейнасці. Значная частка гэтай літаратуры пра Скарыну з'явілася ў сувязі з 400-годдзем і 450-годдзем беларускага кнігадрукавання. Іменна ў гэтыя даты (1925 і 1967) у Беларусі ствараліся спецыяльныя зборнікі навукова-даследчых і навуковапапулярных артыкулаў, прысвечаных памяці славутага друкара. У гэтых зборніках былі змешчаны і агляды літаратуры пра Скарыну за пэўныя адрэзкі часу.

Сярод шматлікіх і разнастайных прац, прысвечаных Скарыне, найбольш грунтоўнымі з'яўляюцца наступныя: «Доктор Франциск Скорина, его переводы и язык» П. В. Уладзімірава (СПб, 1888), «Чешская библия в истории русской культуры и письменности» А. В. Флароўскага (Прага, 1940—1946) і «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» М. А. Алексютовіча (Мінск, 1958).

Аднак пры ўсіх відавочных поспехах, дасягнутых у справе вывучэння жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны, у нас яшчэ пакуль што няма такога манаграфічнага даследавання пра Скарыну, у якім быў бы падагульнены вопыт папярэдніх даследчыкаў і глыбока раскрыт характар дзейнасці Скарыны ва ўсіх яе аспектах. Няма яшчэ дакладнага і поўнага апісання каталога скарынінскіх кніг.

Тыя ж даведнікі, якія былі зроблены бібліёграфамі XIX ст., пры ўсіх сваіх станоўчых рысах зараз ужо не могуць нас поўнасцю задаволіць. Перш за ўсё яны не ахопліваюць многіх з вядомых нам зараз кніг скарынінскага друку. А па-другое, гэтыя даведнікі не заўсёды могуць даць адказ на пытанне, дзе цяпер шукаць тую або іншую калекцыю скарынінскіх кніг, якая была апісана і ўзята на ўлік яшчэ задоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі, акрамя раздробненых дзяржаўных фондаў, меліся шматлікія царкоўна-манастырскія і пры-

ватныя фонды кнігалюбаў сярод рускай арыстакратыі і заможных купцоў. І, нарэшце, у сувязі з пазнейшай рэарганізацыяй і ўзбуйненнем дзяржаўных архіваў устарэла, а таму і стала недакладнай значная частка тых інвентарызацыйна-пашпартных даведак, якія ёсць у апісаннях скарынінскіх кніг дарэвалюцыйных бібліёграфаў. На жаль, даўно наспеўшая неабходнасць у зводным каталогу рукапісных і кнігадрукарскіх фондаў XVI—XVII стст., якія захаваліся ў сучасных дзяржаўных кнігасховішчах да нашых дзён, яшчэ і зараз працягвае заставацца актуальнай і пакуль што нявырашанай праблемай.

У дачыненні да скарынінскіх кніг пражскага і віленскага выданняў першая спроба такой навейшай інвентарызацыі была нядаўна зроблена Я. Л. Неміроўскім у яго артыкуле пра славянскія інкунабулы і палеатыпы кірылаўскага шрыфту ў кнігасховішчах Савецкага Саюза [1]. Аднак і гэта па-свойму каштоўная бібліяграфічная даведка далёка не дасканалая. Яна таксама не ахоплівае ўсёй наяўнасці экземпляраў скарынінскіх выданняў у кнігасховішчах СССР. А па-другое, што надзвычай важна, не дае ўяўлення аб тым, у якім стане захаваўся да нашага часу першапачатковы аб'ём кожнага з зазначаных бібліёграфамі экземпляра скарынінскага друку.

Выданні Скарыны параўнальна багата прадстаўлены ў нашых айчынных кніжных фондах: у Ленінградзе, Маскве, Мінску, Вільна, Адэсе, Львове, Кіеве, Ужгарадзе, Саратаве. Але ні ў адным з іх няма поўнага камплекта выданняў. А гэта ў сваю чаргу стварае пэўныя цяжкасці для тых, хто цікавіцца і займаецца даследаваннем гісторыі беларускай культуры пачатку XVI ст., ля вытокаў якой стаяў і непасрэдна сам унёс

---

[1] «Советское славяноведение», 1968, № 1, стар. 22—24.

значны ўклад адзін з буйнейшых і таленавітых яе прадстаўнікоў — Францыск Скарына.

Зразумела, што перш чым распачаць паглыбленае вывучэнне жыцця і дзейнасці гэтага выдатнага дзеяча беларускай нацыянальнай культуры, які «па сіле думкі, страсці і характару, па шматбаковасці і вучонасці»[1] не ўступаў лепшым прадстаўнікам эпохі еўрапейскага Адраджэння, трэба мець пад рукамі поўны камплект яго выданняў. У сувязі з гэтым паўстае неабходнасць пера-выдаць і тым самым увесці ў шырокі навуковы ўжытак найбольш значную частку літаратурна-культурнай спадчыны Скарыны, якая захавалася да нашага часу, але яшчэ ніколі, за выключэннем яе асобных мясцін, не перавыдавалася. А найбольш значнай і каштоўнейшай часткай у літаратурна-публіцыстычнай і выяўленча-мастацкай спадчыне Скарыны з'яўляюцца яго арыгінальныя прадмовы, сказанні, пасляслоўі, тэматычныя гравюры, мастацкія застаўкі і віньеткі.

Поўная публікацыя тэкстаў Скарыны і значнай часткі яго ілюстрацыйна-мастацкага матэрыялу будзе спрыяць далейшаму вывучэнню жыцця і творчасці Францыска Скарыны. Іменна гэтымі меркаваннямі і была абумоўлена праца складальніка дадзенага зборніка твораў Скарыны.

Культурна-асветніцкая дзейнасць Скарыны пачалася ў 1517 г. у чэшскай Празе, дзе ён заснаваў сваю першую друкарню. Гэта друкарня па часе ўзнікнення і па ліку была пятай друкарняй, якая выдавала кнігі на славянскай мове. Яе папярэдніцамі ў гэтых адносінах былі: кракаўская друкарня Швайпольта Фіоля (1491), чарнагорская друкарня пры палацы Црноевічаў (90-я гады XV ст.), валашская друкарня ў Тырговіштэ (пачатак

---

[1] Ф р ы д р ы х  Э н г е л ь с. Дыялектыка прыроды, стар. 6.

XVI ст.) і венецыянская друкарня Франьо Ратковіча Міцаловіча (1512).

Пражская друкарня Скарыны праіснавала толькі тры гады. За гэты час Скарына выдаў тут 23 кнігі «Бібліі», якія сам пераклаў з розных крыніц на родную мову. А такой роднай мовай Скарыны была стараславянская мова кніжнай пісьменнасці ў яе пазнейшай беларускай рэдакцыі.

Выданне «Бібліі», і ў прыватнасці кніг так званага старога запавету, ажыццяўлялася Скарынай у наступным парадку. 6 жніўня 1517 г. ён выдаў «Песни царя Давыда, еже словуть Псалтыр», памерам 284 старонкі. Паколькі гэта кніга ў тыя часы з'яўлялася падручнікам, па якому вучылі дзяцей стараславянскай грамаце, Скарына выдаў яе без перакладу. А каб яна была зразумела чытачу, ён на палях змяшчаў «глосы», г. зн. тлумачэнні незразумелых слоў словамі жывой гутарковай мовы свайго народа. У тым жа 1517 г. услед за гэтай кнігай выйшлі яшчэ: 10 верасня — кніга «Іоў», 102 стар.; 6 кастрычніка — «Прытчы прамудрага Саламона, цара Ізраілева», 96 стар.; 5 снежня — кніга «Ісус Сірахаў», 162 стар. Агульны памер усіх чатырох кніг склаў 644 стар.

У 1518 г. Францыск Скарына выдаў яшчэ 8 кніг старога запавету: 2 студзеня — «Еклесіяст або Саборнік», 36 стар.; 9 студзеня — кнігу «Песня песням», 24 стар.; 19 студзеня — «Прамудрасць», 64 стар.; 10 жніўня — чатыры кнігі «Царстваў», 482 стар. У гэтых чатырох кнігах Скарына захаваў агульную пагінацыю, нягледзячы на тое што выдаваліся яны асобнымі выпускамі, аб чым сведчаць іх тытульныя лісты. Апошнім датаваным выданнем 1518 г. з'явілася надрукаваныя 20 снежня 96 стар. кнігі «Ісуса Навіна». Агульны памер усіх выдадзеных Скарынай у 1518 г. васьмі кніг «Бібліі» склаў 702 стар.

Найбольш прадуктыўным як па колькасці выдадзеных кніг, так і па колькасці друкаваных старонак з'яўляўся для Скарыны 1519 г. У гэты апошні год сваёй друкарскай дзейнасці ў Празе ён выдаў 11 кніг, агульны памер якіх склаў 1052 стар. У ліку гэтых кніг дзве кнігі маюць дакладныя даты выдання: кніга «Юдзіф» (52 стар.) датуецца 9 лютага 1519 г.; кніга «Суддзяў» (96 стар.) датуецца 15 снежня. Без дакладных дат, але з указаннем года надрукавання былі выдадзены Скарынай за 10 месяцаў 1519 г. кнігі: «Быццё», 192 стар.; «Другі закон», 132 стар.; «Данііла-прарока», 80 стар.; «Эсфір», 52 стар.; «Руф», 16 стар.; «Плач Ераміі», 24 стар. І толькі тры сярэднія часткі з пяцікніжжа Маісея — «Выхад», 152 стар.; «Левіт», 108 стар. і «Лічбы», 148 стар.— выйшлі з друку без указання года выдання.

Усе пералічаныя вышэй 23 кнігі «Бібліі» Скарына друкаваў асобнымі выданнямі, і кожнае з іх аздаблялася ілюстрацыямі на тытульных лістах, застаўкамі да тэкстаў кнігі, віньеткамі і нават спецыяльна зробленымі заглаўнымі літарамі да кожнага раздзела або параграфа кнігі. Кожная з гэтых кніг мела сваю прадмову, а часам і дзве (напр., кніга «Ісус Сірахаў», або «Быццё»), сваё пасляслоўе і, за выключэннем чатырох кніг «Царстваў», незалежную пагінацыю.

Пражскія выданні Скарыны выгадна адрозніваліся ад сучасных ім кніг заходнееўрапейскага кнігадрукавання і пэўнай часткі выданняў паўднёвага і заходнеславянскага друку сваім графічна-мастацкім афармленнем і нават найбольш зручным для практычнага карыстання фарматам — у 4-ю долю ліста.

Заслуга Скарыны як выдатнага грамадскага і культурнага дзеяча сваёй эпохі заключаецца ў тым, што ён быў адным з першых глыбока адукаваных і таленавітых друкароў, хто пазнаёміў славян з высокай тэхнікай

друкарскага станка. Яго выданні для пазнейшых друкароў служылі тым эталонам, якому яны наследавалі і ў ідэйнай накіраванасці кнігі, і ў яе мастацка-графічным афармленні, і нават у пераймання самога прынцыпу пашпартызацыі выкарыстаных у тэксце цытат. З'яўляючыся заснавальнікам усходнеславянскага і ў першую чаргу беларускага кнігадрукавання (для плённага развіцця якога ён яшчэ ў пачатку XVI ст. заклаў трывалы падмурак), Скарына ўвёў у практыку літаратурна-асветніцкай публіцыстыкі новы для таго часу жанр прадмоў, які замацаваўся і нават цяпер выкарыстоўваецца пры выданні кніг. У гэтым арыгінальным па форме і зместу публіцыстычным жанры Скарына выказваў свае погляды на тагачасную навуку, меркаванні па шырокаму колу пытанняў маралі, палітыкі, права, тэорыі і практыкі дзяржаўнага жыцця і сваё разуменне сутнасці так званага свяшчэннага пісання, якім тады лічыліся кнігі «Бібліі»

Выданні Скарыны мелі вялікае значэнне для далейшага разгортвання і ўдасканалення друкарскай справы не толькі ў Беларусі, але і ў Маскве, на Украіне і нават у краінах Заходняй Еўропы. Яны, фігуральна кажучы, былі тымі першымі іскравымі разрадамі, якімі ў нашым грамадска-палітычным і літаратурным жыцці таго часу азнаменаваўся пачатак напружанай ідэалагічнай барацьбы супраць манаполіі царквы на адукацыю народа і яго духоўнага развіцця, пачатак барацьбы за вызваленне чалавека з-пад духоўнай апекі царквы, за ўсведамленне яго ўласнай годнасці. І ў гэтым сэнсе дзейнасць Скарыны служыла тым маяком, які асвятляў шлях да прагрэсу і на які арыентаваліся яго паслядоўнікі, калі ў сваёй літаратурнай практыцы імкнуліся працягваць яго культурна-асветніцкія традыцыі.

Пражскі перыяд друкарскай дзейнасці Скарыны быў надзвычай напружаным. Калі ўлічыць, што Скарыне

самому даводзілася сумяшчаць працу перакладчыка, рэдактара, тэхнічнага рэдактара, друкара і арганізатара друкарні, то стане відавочным, якой тытанічнай працаздольнасцю вызначаўся Скарына. І сапраўды, пры той яшчэ досыць прымітыўнай тэхніцы кнігадрукавання падрыхтаваць і «оттиснути», як ён зазначаў, за якіх-небудзь 30 месяцаў 2 398 стар. друкаванага тэксту было справай нялёгкай.

Думаецца, і для гэтага ёсць падставы сцвярджаць, што названая колькасць старонак друкаванага тэксту «Бібліі» Скарыны хоць і значная, але складае ўсё ж толькі частку яго працы тых часоў. У дадзеным выпадку звернемся да яго дзвюх прадмоў — да прадмовы ў першую кнігу «Царстваў» (стар. 38—41) і агульнай прадмовы да ўсёй «Бібліі» (стар. 60—69).

Даючы ў праграмнай прадмове да ўсёй «Бібліі» пералік кананізаванага пастановамі ўсяленскіх сабораў састаўных частак старазаветнага зводу, Скарына звяртае ўвагу на тыя карысныя звесткі, якія, на яго думку, чытач можа ўзяць для сябе з кожнай канкрэтнай кнігі «Бібліі». Разам з тым, указваючы на парадак размяшчэння кніг «Бібліі», Скарына разбіваў гэты кананізаваны звод на гнёзды, у якіх па той або іншай адзнацы групаваў часам па некалькі кніг. Такіх гнёздаў па класіфікацыі Скарыны ў першай частцы «Бібліі», г. зн. у старым запавеце, атрымалася 24, а ўсіх змешчаных у гэтых гнёздах кніг —46. Па яго класіфікацыі, 8-е гняздо запаўнялі кнігі «Суддзяў» і «Руф», 13-е — дзве кнігі «Параліпаменона», 14-е — дзве кнігі «Ездры» і кніга «Нееміі», 22-е — кніга «Ісус Сірахаў» і «Прамудрасць», 23-е — кнігі 16 пракарокаў боскіх і, нарэшце, апошняе 24-е гняздо — дзве кнігі «Махавеяў».

Размяшчаючы па гнёздах 23 кнігі «Бібліі» пражскага выдання, якія дайшлі да нашых дзён, мы заўважым, што 13, 14, 15 і 24-е гнёзды зусім не прадстаўлены ці,

дакладней кажучы, не запоўнены выданнямі Скарыны, а самае вялікае па колькасці кніг 23-е гняздо запоўнена толькі двума выданнямі — кнігай «Данііла-прарока» і кнігай «Плач Ераміі». А між тым у сваёй прадмове да кнігі «Плач Ераміі» (гл. стар. 109) Скарына сцвярджае, што ён не толькі падрыхтаваў, але і выдаў кнігу прароцтваў Ераміі: «Сей божий пророк (г. зн. Ерамія.— *А. К.*) был ест родом с местечка именем Анафотита, еже ест недалеко от Ерусалима, от племеня жреческаго. О том ширей написал есми во прѣдословии своем на книги пророчества его». Аднак кніга прароцтваў Ераміі да нашага часу ў выданнях Скарыны не захавалася.

Паўстае пытанне, знарок ці незнарок аказаўся такі вялікі пропуск кніг «Бібліі» ў пражскіх выданнях Скарыны. Калі знарок, то чаму? А прапушчанымі аказаліся наступныя часткі старазаветнага зводу «Бібліі»: дзве кнігі «Параліпаменона», дзве кнігі «Ездры» і кніга «Нееміі», кніга «Товіт», дзве кнігі «Махавеяў», кнігі прарокаў Ісайі, Варуха, Езекііля і кнігі 12 меншых прарокаў. Такім чынам, усяго прапушчана 23 кнігі, што пз колькасці складае лічбу тых кніг «Бібліі» Скарыны, якія захаваліся да нашых дзён.

Калі ўважліва чытаць прадмовы Скарыны да першай кнігі «Царстваў» і да ўсёй «Бібліі», то няцяжка заўважыць, якое месца адводзіў Скарына 11 першым з названых яе частак у плане пашырэння практычных ведаў па гісторыі і ўдасканаленню нораваў «ко розмножению добрых обычаев» сярод «паспалітага люду».

Так, адсылаючы чытача за гістарычнымі ведамі, Скарына ў якасці іх крыніцы называў побач з кнігамі «Суддзяў» і чатырма кнігамі «Царстваў» яшчэ 7 кніг, а іменна: дзве кнігі «Параліпаменона», дзве кнігі «Ездры», кнігу «Нееміі» і дзве кнігі «Махавеяў». З іх найбольш багатымі на гістарычныя звесткі Скарына лічыў дзве кнігі «Махавеяў». Так, у прадмове да ўсёй

«Бібліі» ён пісаў: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев; более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи». А кнігу «Товіт», якая сваім зместам надзвычай ярка пераклікалася і была сугучна ўвогуле ўсёй культурна-асветніцкай дзейнасці Скарыны, ён высока цаніў за тое, што яна «науку отцем, яко имають учити сыны своя, кажеть».

Лагічным будзе меркаваць, што калі не ўсе з названых вышэй 11 прапушчаных кніг старога запавету «Бібліі», на якія Скарына звяртаў асаблівую ўвагу чытача, то пэўную частку з іх ён не толькі пераклаў, а, магчыма, і выдаў. І ў дадзеным выпадку гутарка можа ісці перш за ўсё пра дзве кнігі «Махавеяў» і кнігу «Товіт». А прымаючы ў разлік колькасць друкаваных старонак «Бібліі», выдадзеных у 1518 г., і сярэднюю колькасць іх, якая прыпадае на першы месяц гэтага года, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што працаваў Скарына над гэтымі 11 або трыма кнігамі ў тым жа 1518 г. і ў прыватнасці ў лютым, сакавіку, верасні, кастрычніку і лістападзе. Інакш навошта было Скарыне адсылаць чытача за ведамі да тых кніг «Бібліі», якіх ён не даваў ці не мог даць у сваіх выданнях.

Мяркуючы па дайшоўшых да нашага часу выданнях Скарыны, 1519 г. быў апошнім годам існавання яго пражскай друкарні. У нас няма звестак, па якіх можна было б меркаваць, чаму яна так хутка спыніла сваю дзейнасць. Тут могуць быць толькі больш-менш верагодныя здагадкі аб тых ці іншых прычынах, у ліку якіх, відаць, неапошнюю ролю адыграла і матэрыяльнае становішча Скарыны. Але вядома, што праз 6 год вымушанага маўчання, абумоўленага рознымі акалічнасцямі часу, Скарына зноў заняўся выданнем кніг і на гэты раз ужо ў сталіцы княства Літоўскага ў Вільні, дзе ўсю справу кнігадрукавання яму прыйшлося пачынаць нанава.

Віленскі перыяд друкарскай дзейнасці Скарыны быў таксама надзвычай кароткім. Працягласць яго бадай не перавышала 18 месяцаў існавання самой друкарні. Аднак па колькасці асобных выпускаў (25) і надрукаваных старонак (больш за 1600) ён быў ужо не такім бедным.

У навуковай літаратуры да апошняга часу існуе думка, што Скарына надрукаваў у Вільні ўсяго толькі дзве кнігі — «Апостал» 1525 г. і прыкладна ў тым жа годзе «Малую падарожную кніжыцу», у склад якой увайшлі: «Псалтыр», «Часасловец», «Каноны», «Акафісты», «Шасцідзённік» («Шестодневець кратъкій»), «Святцы сціслыя» і «Пасхалія».

Аднак пры больш уважлівым разглядзе гэтых двух зборнікаў кідаецца ў вочы, што кожная з састаўных частак «Апостала» і «Малой падарожнай кніжыцы» мае сваю незалежную пагінацыю, а ў асобных выпадках і ўласныя тытульныя лісты. Некаторыя з гэтых састаўных частак, у прыватнасці «Акафісты» і «Каноны», адрозніваюцца паміж сабою і мастацкім афармленнем і месцам размяшчэння пагінацыі. Так, кожны з 8 акафістаў мае свой тытульны ліст, у канонах жа іх няма. Пагінацыя ў акафістах падаецца ў ніжніх правых вуглах, а ў канонах яна размешчана ў верхніх правых вуглах. Прымаючы пад увагу гэтыя і некаторыя іншыя акалічнасці, відаць, мае рацыю Я. Л. Неміроўскі, калі піша, што было б «больш справядлівым лічыць часткі «Малой падарожнай кніжыцы» асобнымі выданнямі, як і раздзелы «Бібліі», выдадзенай Скарынай у Празе ў 1517—1519 гг.» [1] А такіх незалажных па пагінацыі

---

[1] Е. Л. Немировский. Славянские инкунабулы и палеотипы кирилловского шрифта в книгохранилищах Советского Союза («Советское славяноведение», 1968, № 1, стар. 19).

частак у «Апостале» налічваецца 4, а ў «Малой падарожнай кніжыцы»—21.

Віленскія выданні Скарыны ў адрозненне ад пражскіх друкаваліся яшчэ меншым фарматам: часткі «Апостала» ў 8-ю долю ліста, а часткі «Малой падарожнай кніжыцы» ў 12-ю долю. З боку графічна-мастацкага афармлення яны хоць і вызначаюцца досыць высокім узроўнем, багаццем самых разнастайных віньетак і нават шырокім выкарыстаннем чырвонай фарбы, аднак значна ўступаюць пражскім выданням у сэнсе аздаблення тытульных лістоў і выкарыстання гравюрных заставак. Ды і самі прадмовы да многіх тэкстаў не вылучаюцца тым багаццем думак, якія былі ўласцівы пражскім выданням Скарыны. І, відаць, не выпадкова Скарына, за выключэннем прадмоў да «Апостала» і «Псалтыра» 1525 г., усе астатнія свае прадмовы называў тэрмінам «сказание», бо ў пераважнай большасці прадмовы да віленскіх выданняў, як і некаторыя прадмовы да пражскіх выданняў, з'яўляюцца ні чым іншым, як толькі сціслым пераказам зместу друкуемага тэксту. А з гэтага вынікае, што Скарына адрозніваў жанр прадмовы ад жанру сказання, якое ў яго разуменні насіла пераважна апісальны характар.

Вострая неабходнасць поўнай публікацыі прадмоў, сказанняў і пасляслоўяў Скарыны, якія для творчай біяграфіі і характарыстыкі яго дзейнасці маюць выключнае значэнне, выклікана перш за ўсё тым, што, за выключэннем некалькіх прадмоў [1], літаратурна-публіцыстычная спадчына асветніка-гуманіста не перавыдавалася. Выданні ж Скарыны, як ужо адзначалася, раскіданы па розных дзяржаўных кнігасховішчах СССР,

---

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959, стар. 171—186; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Минск, 1962, стар. 34—39.

да таго ж ні ў адным з іх няма поўнага камплекту. Найбольш поўна выданні Скарыны сабраны толькі ў аддзеле рэдкай кнігі ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. Тут знаходзяцца ўсе яго выданні часоў пражскага кнігадрукавання і, за выключэннем «Часаслоўца» і «Пасхаліі», кнігі, надрукаваныя ў Вільні.

Выданні, якія ляглі ў аснову нашай публікацыі, не ўсе ў аднолькавай ступені захаваліся. Так, некаторыя старонкі прадмоў Скарыны за доўгі час карыстання сцёрліся да такой ступені, што ў пэўных мясцінах іх цяжка прачытаць. Частку такіх сапсаваных мясцін прыходзілася аднаўляць па экземплярах іншых кнігасховішчаў. Не ўдалося толькі аднавіць адно месца (роўна на 12 друкаваных знакаў) з апошняга радка другой старонкі прадмовы Скарыны да кнігі «Ісуса Навіна».

Ленінградскі камплект выданняў Францыска Скарыны, набыты публічнай бібліятэкай у другой палавіне XIX ст. ад розных калекцыянераў старога славянскага кнігадрукавання, пераплецены ў 7 тамах. Асобным томам (інв. № 3091, шыфр: VIII. 2. 62) прадстаўлен «Псалтыр» 1517 г. Наступныя тры тамы (інв. № 235—237) складзены з астатніх выпускаў кніг старога запавету, прычым пры размяшчэнні іх у тамах пераплётчык амаль поўнасцю захаваў тую паслядоўнасць, на якую ўказваў Скарына ў прадмове да ўсёй «Бібліі». Выключэнне склала толькі адна кніга «Іоў».

Размеркаванне выпускаў «Бібліі» ў названых тамах выглядае так. У першым томе змешчана пяцікніжжа Маісея — «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон». Памер тома 732 стар. Другі том складаюць: кнігі «Ісуса Навіна», «Суддзяў», «Руф», чатыры кнігі «Царстваў», «Юдзіф» і «Эсфір». Памер гэтага тома 794 стар. Трэці том уключае кнігі: «Іоў», «Прытчы пра-

мудрага Саламона, цара Ізраілева», «Еклесіяст або Саборнік», «Песню песням», «Прамудрасць», «Ісус Сірахаў», «Плач Ераміі» і «Данііла-прарока». Памер тома 588 стар.

Віленскія выданні Скарыны пераплецены ў тры асобныя тамы, адзін з іх займае «Апостал» (інв. № 253), другі — «Псалтыр» 1525 г. (інв. № 255), трэці том (інв. № 256) аб'ядноўвае ўсе астатнія часткі «Малой падарожнай кніжыцы».

Прадмовы, сказанні і пасляслоўі Скарыны да віленскіх выданняў у ленінградскім камплекце Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына поўнасцю не захаваліся. А таму пры падрыхтоўцы гэтага выдання іх прыйшлося дапаўняць з экземпляраў маскоўскіх кніжных фондаў, у прыватнасці з фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна і Дзяржаўнага гістарычнага музея.

Па колькасці прадмоў і сказанняў Скарыны з віленскіх выданняў вылучаецца «Апостал». У гэтай кнізе, ці дакладней зборніку, які складаецца з чатырох самастойных выпускаў,— «Дзяянняў апостальскіх», сямі саборных апостальскіх пасланняў, 14 пасланняў апостала Паўла і «Саборніка», — аб'яднаных агульным загалоўкам «Деания и посълания апостольская», Скарына змясціў 23 прадмовы і сказанні. У ленінградскім камплекце іх захавалася толькі 21. У ім адсутнічаюць сказанне Скарыны да паслання апостала Паўла рымлянам і прадмова да «Саборніка». Адзіным унікальным экземплярам, у якім захавалася апошняя старонка (л. 4) з прадмовы да «Саборніка», з'яўляецца экземпляр Дзяржаўнага гістарычнага музея (Хлуд. А6). Вось што засталося толькі з гэтай прадмовы: «Имашь пак в сей книзе, мой любимы приятелю, хто ж будеши ея чести. Зачала каждого послания чорным вызнаменованы; початки и концы всякому апостолу, яко во церкви божій чтется, к тому и

дни месецей, в них же прочитаются. На празники божие и светых его знайдеш положено червеным. Главы же, яко и во всех книгах Бивліи, ветхаго и новаго закона мною на русъки язык выложеных, што которая в собѣ кратце замыкаеть, ко знайдению скоро всякое речи потребное во божественых писаниех к тому и светки по стороницах, яко одно писмо на другое сведетельствуеть и воедино ся згожають, чорным исправлены, розделне узриши.

Совершися (друкаванне гэтай кнігі.— *А. К.*) в дому почтивого мужа Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славнаго и великаго мѣста Виленскаго» [1].

Гэта прадмова Скарыны да «Саборніка» была надрукавана кінаварнай фарбай і заканчвалася там на л. 4. Адваротная старонка гэтага ліста заставалася чыстай.

Да так званай «Малой падарожнай кніжыцы», якая друкавалася пасля «Апостала», аб чым яскрава сведчаць выкарыстаныя ў ёй з «Апостала» віньеткі, Скарына агульнай прадмовы не даваў, як не даваў і прадмоў ці сказанняў да яе асобных самастойных частак. У адрозненне ад усіх сваіх папярэдніх выданняў ён тут у якасці пасляслоўя змясціў падрабязны (на 6 друкаваных старонак) змест гэтай кніжыцы і яе састаўных частак. З усіх састаўных частак «Малой падарожнай кніжыцы» прадмова ёсць толькі да «Псалтыра». Аднак гэта прадмова Скарыны, як і сам тэкст кнігі, з'яўляецца паўтарэннем пражскага выдання 1517 г.

Звесткі пра тое, што «Малая падарожная кніжыца» была надрукавана ў Вільні, мы знаходзім у пасляслоўі да «Часаслоўца», дзе Скарына паведамляе: «Доконан

---

[1] У кнізе Каратаева «Описание славянорусских книг, напечатанных кирилловскими буквами» (т. I (с 1491 по 1562 г.). СПб, 1883, стар. 58) гэта цытата не адпавядае арыгіналу.

ест Часословец, имея денную и нощную службу, працею и пилностию докътора Франъциска Скорины с Полоцька у великославном месте Виленском». Варта падкрэсліць, што, за выключэннем «Канона покояльного», у гэтым зборніку Скарына змяшчаў пасляслоўі да кожнай самай дробнай самастойнай часткі «Малой падарожнай кніжыцы». Так, акафісты і каноны маюць 16 пасляслоўяў. Але за выключэннем 8-га пасляслоўя, у якім адзначана, што канон прачыстай багародзіцы перакладзен Скарынай з грэчаскай мовы, усе астатнія пасляслоўі па сваймy зместу аднатыпныя.

Найбольш поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны захаваўся толькі ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. Але і ў гэтым унікальным экземпляры канец кнігі абрываецца першай старонкай «Пасхаліі». Такім чынам, апошняя частка «Малой падарожнай кніжыцы», якая, паводле ўласных сцверджанняў Скарыны, «На многа лѣта, замыкаючи справу празников, к тому естьли бы которого году была гибель месецева или затемнение солнъцево», давала дакладныя і «неомылные» астранамічныя звесткі, да нашага часу не захавалася.

## КАРОТКІ КАМЕНТАРЫЙ ДА ВЫДАННЯЎ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Першая кніга — *«Псалтирь»,* з якой пачалася серыя выданняў Скарыны, у нашых айчынных кніжных фондах захавалася толькі ў двух экземплярах. Адзін з іх знаходзіцца ў аддзеле рэдкай кнігі ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (VIII.2.62, інв. № 3091), другі — у Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве (фонд Хлуд., 4). Найбольш поўным з'яўляецца маскоўскі экземпляр,

аднак і ў ім адсутнічаюць два лісты: 1 і 130. У ленінградскім жа экземпляры захавалася толькі прыкладна каля 60% друкаванага тэксту кнігі, працяг якой да канца тут дапісаны ад рукі. Вядома, што такое запаўненне прабелу не можа замяніць сам арыгінал.

У абодвух экземплярах (у ленінградскім на л. 1, а ў маскоўскім на л. 142) ёсць прыпіскі: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына, радци мѣста Виленского». Відаць, надпісы былі зроблены ў хуткім часе пасля выхаду кнігі. Разам з тым у абодвух экземплярах ёсць запісы іх уладальнікаў; у ленінградскім — запіс якогасьці Емяльяна і яго сына, зроблены ў XVII ст., а ў маскоўскім — запіс XVIII ст., зроблены ў сяле Белаязерскім Ухтомскай воласці Пашахонскага павета.

На л. 1, які захаваўся толькі ў ленінградскім экземпляры, змешчана тэматычная гравюра, якая суправаджаецца друкаваным тэкстам: «Сій есть корень Иесеов, с него же изыде царь Давыд и Саломон и иные цари Израілевы, и господь нашь Ісус Христос», а пасля гэтага тэксту прыведзеная намі вышэй прыпіска. Гравюра зроблена ў тыпова барочным стылі.

Адваротная старонка л. 1 у «Псалтыры» Скарыны з'яўляецца тытульнай. Тут у верхнім левым вугле Скарына змясціў у чорнай рамцы памерам з карабок ад запалак партрэт легендарнага цара Давыда ў мантыі, з каронай на галаве і прасцёртымі рукамі да нябёсаў, дзе з воблакаў прасвечваецца чалавечая галава, што сімвалізуе, відаць, бога. Пад гравюраю на шырыню рамкі загаловак: «Песни царя Давыда, еже словуть Псалтыр». На вышыню першых чатырох радкоў загалоўка займае месца вялікая літара («буквіца») «П». Сама літара і кветка канюшыны, якая змешчана тут у сярэдзіне буквіцы, белыя, а фон рамкі, што абламоўвае літару «П», чорны.

Прадмова Скарыны пачынаецца з л. 2 і заканчваецца на л. 4 адв. Ні перад тэкстам прадмовы, ні ў канцы яе няма мастацкіх упрыгожанняў.

Тэкст «Псалтыра» пачынаецца з л. 5, на якім зверху змешчана сімвалічная застаўка ў выглядзе літары «П». У левай частцы застаўкі намалявана галава мужчыны, а ў правай — галава жанчыны, якія аблямованы ўзорыстымі вянкамі і хвастамі накшталт лацінскай літары «С». Пасярэдзіне гравюры (гл. стар. 8) над праёмам намаляван збан з кветкамі, з абодвух бакоў якога каля кветак ёсць завітушкі, а ўнізе ўзорыстая падстаўка, на якой стаіць збан. У светлым праёме застаўкі змешчан герб Скарыны ў выглядзе спляцення месяца і сонца. Наогул мастацкае афармленне самой застаўкі зроблена ў так званым тэраталагічным стылі. З левага боку пад загалоўкам да тэксту псалмоў Скарына зноў паўтарыў гравюру цара Давыда з л. 1 адв.

*«Книга светого Иова»* захавалася да нашых дзён у значна большай колькасці экземпляраў, чым «Псалтыр» Скарыны. Па звестках, якія нам вядомы на сёння, гэта кніга дайшла да нас у 11 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна ў Маскве (№ 6334, 6518—6520);

3) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР у Ленінградзе (37.1.17);

4) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар., А8; Щап., 69);

5) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва ў Львове (Q. 1183, № 11861/070520);

6) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (№ 09/4038), у якім няма першага і 14 апошніх лістоў.

У гэтым выданні Скарыны, акрамя тэматычнай гравюры (гл. стар. 14), у якасці эпіграфа да ўсёй кнігі надрукаван наступны верш Скарыны:

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению.

Перад прадмовай да кнігі «Іоў» змешчана віньетка (гл. стар. 12), а гравюра з тытульнага ліста паўторана яшчэ перад пачаткам тэксту кнігі.

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

Трэцяя па парадку выхаду з друку кніга Скарыны *«Притчи Саломона, царя Израилева, сына Давыдова...»* захавалася ў 13 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) шэсць у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6229, 6308, 6314, 6326, 6327, 6370);

3) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А9, Щап. 69);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.17);

5) адзін у Адэскай дзяржаўнай навуковай бібліятэцы (№ 1/9066);

6) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q.1187, № 070518).

Кніга адкрываецца тэматычнай гравюрай (гл. стар. 16), змешчанай на тытульным лісце. Пад ёю подпіс: «Первый суд, еже судил Саломон царь две жене блудъници о двоих детех». Прадмова ў кнізе ўпрыгожана дзвюма віньеткамі (гл. стар. 18), адна з якіх размешчана гарызантальна, другая вертыкальна на ўсю старонку з левага боку ліста. Гравюра тытульнага ліста

паўторана Скарынай у кнізе на л. 5 і суправаджаецца такім загалоўным тэкстам: «Саломон хвалить пожиток деля того, еже послухати мудрости, заказываеть, абы есмо за грешными не ходили, и мудрость к нам вопиеть».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книга Исуса Сирахова, рекомая Панаретос, Еклесиастыкус или Церъковник»* захавалася ў 11 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) тры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 1439, 6225, 6328);

3) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А9, Щап. 69);

4) два ў Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.17; XIV.6.25);

5) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q.1181, № 070518);

6) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (№ 09/4037), у якім асобныя старонкі лл. 6, 56, 59, 60, 65, 65 адв. сапсаваны; а ў некаторых месцах дапісаны ад рукі лл. 77, 78, 81 адв.

Кніга адкрываецца тэматычнай гравюрай (гл. стар. 23), змешчанай на тытульным лісце. Пад загалоўкам кнігі ёсць прыпіска: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына, радци места Виленьского».

Тэкст кнігі адкрываецца застаўкай (гл. стар. 25) барочнага стылю. На л. 82 Скарына ўпершыню змяшчае ўласны партрэт. На гэтым партрэце (стар. 27) зверху ў прадаўгаватай рамцы выгравіравана літарамі дата — 1517, а ў ніжняй — тры словы славянскай вяззю: «Доктор Франциско Скорино». Прымаючы пад увагу такую нязвыклую для Скарыны форму подпісу, можна мерка-

ваць, што гравюра гэта была зроблена якімсьці італьянскім майстрам.

На адным з ленінградскіх экземпляраў (1.5.4[а]) ёсць уладальніцкі запіс XVI ст., зроблены ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Еклесиастес или Соборник... царя Саломона»* захаваўся ў 15 экземплярах:

1) тры ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а], 1.5.4[б] і 1.5.4[в]);

2) пяць у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6313, 6317, 6332, 6521, 6522);

3) тры ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А9, Щап. 69, Меньш. 1427);

4) адзін у Адэскай дзяржаўнай навуковай бібліятэцы (№ 1/9066);

5) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.2);

6) адзін без двух апошніх лістоў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (№ 09/4042);

7) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва.

На тытульным лісце гэтай кнігі змешчана тэматычная гравюра (стар. 29), зверху якой ёсць подпіс: «Царица Савва беседует с царем Саломоном».

Тэкст кнігі адкрываецца гравюрнай застаўкай, якую мы ўжо называлі ў кнізе «Ісус Сірахаў» (стар. 25), а перад пасляслоўем паўтараецца віньетка з прадмовы да кнігі «Іоў» (стар. 12).

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книга премудраго царя Саломона, рекомая Песнъ песням»* захавалася ў 9 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) тры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6316, 6523 і 6524);

3) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А9, Щап. 69);

4) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 1181, № 070518);

5) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (№ 09/4040). Экземпляр надзвычай сапсаваны. З усіх 12 л. у ім захавалася толькі 4. Пачынаецца тэкст тут з чацвёртага раздзела кнігі, але і ў гэтых лістах верхнія правыя вуглы сапсаваны.

На тытульным лісце змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 32). Агульны загаловак кнігі, загаловак прадмовы, апошні сказ прадмовы і загалоўкі па ўсёй кнізе набраны чырвонай фарбай. Л. 3-й кнігі пачынаецца застаўкай (гл. стар. 33), якая потым будзе досыць часта сустракацца ў іншых выпусках «Бібліі». У ленінградскім экземпляры 1.5.4ª, па якому друкуюцца прадмова і пасляслоўе, у адным месцы прадмовы ёсць заклейка тэксту. У канцы кнігі змешчана застаўка, упершыню ўжытая Скарынай у кнізе «Ісус Сірахаў».

*«Премудрости божиеи книга»* захавалася ў 9 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4ª і 1.5.4ᵇ);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6315, 6329, 6330, 6525);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А9);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.17);

5) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (Б-4957).

На тытульным лісце змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 35). Прадмова не мае ўпрыгожання. Л. 7 пачынаецца застаўкай, якая была выкарыстана ў кнізе

«Песня песням». Перад пасляслоўем ёсць віньетка, што ўжо сустракалася ў кнізе «Іоў», а пасля пасляслоўя гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў».

Чатыры кнігі *«Царьств»,* выдадзеныя Скарынай у 1518 г., прадстаўлены досыць шырока ў нашых айчынных кнігасховішчах, а невялікія фрагменты — нават і за мяжой. З 16 экземпляраў гэтых кніг знаходзяцца:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) пяць у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 5165, 6222—6224, 6526);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. 7);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.3);

5) адзін у Бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта (№ 314128);

6) два ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве (ф. 1250, № 1; ф. 1250, № 820). У першым з гэтых экземпляраў ёсць запіс: «Сия книга Алексеева дому Петровича Гладкова, а взята сия книга в Литовской земли в городе Гродно лета 7163 (1655) году, месеца августа в 26 день»;

7) адзін у Львоўскай дзяржаўнай навуковай бібліятэцы (Ст. 54594);

8) два ў Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 415, № 070509/2630 і Q. 415, № 070510);

9) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (№ 09/4036). У гэтым экземпляры няма лл. 1—7, 9, 18—21, 56, 183 і трох апошніх лістоў (г. зн. лл. 239—241), а лл. 16, 40 і 65 сапсаваны.

Акрамя пералічаных экземпляраў, за мяжой ёсць: а) фрагмент у Кембрыджскай бібліятэцы і б) фрагмент у Бібліятэцы каледжа «Трыніці» ў Кембрыджы.

У кожнай з чатырох кніг «Царстваў» ёсць свае тэматычныя гравюры на тытульных лістах. Першая з іх мае

надпіс: «Самуил, пророк господень, помаза[л] Давыда на царство». На л. 5 гэтай кнігі змешчана гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў». Ёй папярэднічаюць вялікая прадмова і «Сказание в первыи книги Царъств». На л. 64 адв. змешчана пасляслоўе без віньетак.

Другая кніга «Царстваў» пачынаецца з л. 65, на якім змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 37) з надпісам: «Царь Давыд играеть в гусле, неся кивот господень. Царица же Михоль, видя и (яго.—*А. К.*), погорде и бе неплодна». Л. 65 адв. займае тэкст прадмовы да гэтай кнігі. На л. 66 Скарына зноў паўтарыў гравюрную застаўку з кнігі «Ісус Сірахаў».

Трэцяя кніга «Царстваў» пачынаецца з л. 119, на якім таксама ёсць тэматычная гравюра (гл. стар. 39) з надпісам: «Царь Саломон ставит храм господу богу в Ерусалиме». На адваротным баку ліста змешчана прадмова. На л. 120 зноў паўтараецца гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў». Гэта кніга, як ні адна з іншых кніг Скарыны, багатая ілюстрацыйным матэрыялам. Так, на л. 133 змешчана ілюстрацыя трохпавярховага цаглянага дома з подпісам: «Взор храму господьня, от Саломона деланого» (гл. стар. 41). На л. 135 зноў гравюра (гл. стар. 42) з надпісам: «Образ дву[х] херувимов в молитовници» і тлумачальным тэкстам унізе: «И вделал теже царь Саломон в молитовници два хуревимы з древа оливного десеть локтей в вышиню. И было ест крило единаго херувима пять локтей в должиню и другое крило того же херувима пять локтей, то ест десеть локтей имели суть должини оба...» На л. 136 адв. пададзен малюнак двухпавярховага драўлянага дома (гл. стар. 44) з надпісам: Взор дому древяна царя Саломона», а на л. 137 адв. малюнак двух узорыстых слупоў (гл. стар. 45). Пад імі подпіс: «Взор дву[х] столпов, иже пред храмом». На л. 139 змешчан яшчэ адзін тлумачальны малюнак (гл. стар. 47)

з подпісам: «Взор моря или умывалници медяное». На л. 140 тлумачальны малюнак (гл. стар. 48) з надпісам: «Взор десяти подъставок и баней их». На л. 149 апошняя ў трэцяй кнізе «Царстваў» гравюра з'яўляецца паўтарэннем гравюры з тытульнага ліста кнігі «Еклесіяст», і надпіс тут зроблен наадварот, а іменна — «Саломон беседуеть с царицею Саввою» (у кн. «Еклесіяст» было: «Царица Савва беседует с царем Саломоном»).

Чацвёртая кніга «Царстваў» пачынаецца з л. 183, на якім змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 49) на ваенную тэму. Надпіс такі: «Навходносор, царь Вавилонский, добывает Ерусалима». На л. 184 зноў ужо ў чацвёрты раз паўтараецца гравюрная застаўка з кнігі «Ісус Сірахаў». На л. 240 Скарына паўтарыў і свой партрэт, але гэты адбітак у параўнанні з адбіткам у кнізе «Ісус Сірахаў» выглядае больш цьмяным. Акрамя пасляслоўя да кожнай асобнай кніжкі, Скарына на апошняй старонцы чацвёртай кнігі змясціў агульнае пасляслоўе, перад якім віньетка, запазычаная з прадмовы да «Прытчаў прамудрага Саламона».

Прадмовы і пасляслоўі да ўсіх чатырох кніг «Царстваў» падаюцца па экземпляру 1.5.4[a], пераплеценаму ў другім томе «Бібліі» Скарыны (інв. № 236).

*«Книги Исуса Навина»* вядомы ў 10 экземплярах, з якіх:

1) адзін знаходзіцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[a]). У гэтым экземпляры прадмова Скарыны надзвычай сапсавана і асабліва апошнія два радкі на першай старонцы кнігі:

2) два ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6527 і 6528);

3) адзін (экземпляр сапсаваны.— *А. К.*) у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А6);

4) адзін у Бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта (№ 314128) (сапсаваны.—*А. К.*);

5) адзін (сапсаваны.—*А. К.*) у Бібліятэцы Саратаўскага універсітэта (№ 853/9);

6) два (сапсаваныя.—*А. К.*) у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.2; 3.1.3);

7) адзін (сапсаваны.—*А. К.*) у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 1182, № 070519);

8) адзін у Закарпацкім дзяржаўным краязнаўчым музеі (М-434). Гэты апошні экземпляр, па апісанню В. Л. Мікітася [1], таксама сапсаваны.

Кніга адкрываецца тэматычнай гравюрай (гл. стар. 51), змешчанай на тытульным лісце. Зверху гравюры ёсць надпіс: «Исус Навин ведеть людей Ізраилевых через Іордан». З адваротнага боку тытульнага ліста пачынаецца вялікая прадмова Скарыны. Перад пасляслоўем змешчана віньетка з прадмовы да «Прытчаў прамудрага Саломона», а на лісце тэксту кнігі гравюрная застаўка (гл. стар. 55), выкананая ў тэраталагічным стылі мастацкага афармлення.

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4ᵃ.

*«Книги Іудиф-вдовици»* захаваліся ў 7 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4ᵃ і 1.5.4ᵇ);

2) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А8);

3) тры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6326, 6331, 6529);

4) адзін у Закарпацкім дзяржаўным краязнаўчым музеі (М-434).

На тытульным лісце гэтай кнігі змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 58) з надпісам: «Іудиф-вдовица

---

[1] В. Л. Микитась. Давні книги Закарпатського державного краезнавчого музею (Опис і каталог). Видавництво Львівського університету, 1964, стар. 53—54.

отсече главу Олоферну-воеводе». Прадмова Скарыны заканчваецца віньеткай, запазычанай з прадмовы да «Прытчаў прамудрага Саламона», а на першай старонцы тэксту кнігі змешчана названая вышэй гравюрная застаўка з кнігі «Ісуса Навіна».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

Чатырнаццатая кніга «Бібліі» Скарыны — *«Бытья»* захавалася ў 14 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6533—6536);

3) тры ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А5, Щап. 70, Хлуд. 5);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.1);

5) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 1180, № 070411);

6) адзін у Адэскай дзяржаўнай навуковай бібліятэцы (№ 1/9066);

7) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР (г. Кіеў);

8) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 963).

Кніга адкрываецца тытульным лістом (гл. стар. 61) да ўсіх асобна выдадзеных разрозненых выпускаў «Бібліі» Скарыны. На гэтым лісце ў добра аздобленай гравюрнай рамцы на 7 радках надрукаван загаловак: «Бівлия руска выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Наступны ліст займае гравюра (гл. стар. 64), зробленая на біблейскую тэму аб выгнанні з неба і знішчэнні анёламі д'яблаў. За ёю пачынаецца тэкст вялікай праграмнай прадмовы

Скарыны «во всю Бивлию рускаго языка», а потым — «Сказание во первыи книги Моисеовы, рекомые Бытья». Пасля гэтага тэксту змешчана гравюра (гл. стар. 68), у шасці тэматычных рамках якой адлюстравана біблейская легенда аб стварэнні зямлі і сусвету.

У ленінградскім экземпляры 1.5.4[а], па якому робіцца наша публікацыя тэкстаў прадмоў і пасляслоўяў Скарыны, тэкст прадмовы да ўсёй «Бібліі» надзвычай моцна сапсаваны. Выцертыя часам месцы гэтай прадмовы даводзілася ўзнаўляць па іншых экземплярах. Уласны тэкст кнігі «Быццё» адкрываецца ілюстрацыйнай застаўкай (гл. стар. 71). У канцы кнігі, перад тэкстам пасляслоўя, змешчана віньетка, якая ўпершыню сустракаецца ў прадмове да «Прытчаў прамудрага Саламона». Акрамя пералічаных ілюстрацый, у кнізе «Быцця» Скарына трэці раз змясціў свой гравюрны партрэт, які па яркасці і выразнасці ўсіх мастацкіх дэталей з'яўляецца, відаць, самым лепшым.

Другая кніга з пяцікніжжа Маісея — *«Исход»* захавалася ў 16 экземплярах:

1) тры ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а], 1.5.4[б] і 1.5.4[в]);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6537—6540);

3) тры ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А5, Щап. 70, Хлуд. 5);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.1);

5) два ў Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 415, № 070511; Q. 1180, № 11859/070411);

6) адзін у Адэскай дзяржаўнай навуковай бібліятэцы (№ 1/9066);

7) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР;

8) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 963).

Кніга адкрываецца тытульным лістом, на якім змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 73). Зверху яе надпіс: «Дщера фараонова знашла отроча Моисея у воде». На адваротным лісце пачынаецца прадмова Скарыны. Пасля яе ідзе тлумачальны тэкст такога зместу: «Кто бы пак межи простыми людми братии моей хотел яснее разумети, яковым обычаем был храм уделан, кивот, стол, светилник, требник и ризы жреческии,— тое все вымалеваное нижей знайдеть». Перад тэкстам кнігі «Выхад» змешчана застаўка, якая была ўжо выкарыстана Скарынай у кнізе «Песня песням». Акрамя гэтых гравюр, у кнізе ёсць яшчэ 5 наступных ілюстрацый: у раздзеле 25 на л. 45 адв. з подпісам — «Взор кивота или скрини завета господьня» (гл. стар. 75), на л. 46 адв.— «Взор стола, на нем же бѣ хлеб посвященый» (гл. стар. 77), на л. 47 адв.— «Взор светилника златого светием его» (гл. стар. 79); а ў раздзеле 27 на л. 50 адв.— ілюстрацыя «Взор требника, на нем же приношаху жертвы» (гл. стар. 84) і на л. 52 адв. партрэтная гравюра Арона з надпісам — «Взор риз жреческих, еже быша на Ароне» (гл. стар. 86). Апошнія 2 гравюрныя ілюстрацыі Скарына паўтарае ў кнізе «Левіт» з некаторымі адрозненнямі тэксту да гэтых ілюстрацый і асобных дэталей фона ў малюнку Аарона.

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4ª.

*«Книги третии Моисеовы, зовемыи Леувит»* захаваліся ў 14 экземплярах:

1) тры ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4ª, 1.5.4ᵇ і 1.5.4ᵛ);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6541—6544);

3) тры ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А5, Щап. 70, Хлуд. 5);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.1);

5) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР;

6) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 1180, № 11859/070411);

7) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 963).

На тытульным лісце змешчана гравюра (гл. стар. 81), зверху якой ёсць надпіс: «Господь бог глаголеть к Моисею у храму Свѣдения». Прадмова Скарыны пачынаецца на адваротным баку тытульнага ліста і заканчваецца на л. 6 віньеткай (гл. стар. 87), а на л. 6. адв. зноў паўторана гравюра трэбніка, змешчаная ў кнізе «Выхад». Пад гравюрай пададзен тлумачальны тэкст: «То ест образ требника, на нем же приношаше Аарон жертвы господу богу. Он же стоиваше во притворе храмове. И на той крате, еже висить посреди его, паляху жертвы; огнь же всегда горяше зысподу на огнищи его».

Перад пачаткам тэксту кнігі «Левіт» паўтараецца застаўка з кнігі «Песня песням». На л. 42 адв. паўтараецца і гравюрны партрэт Арона. Над гравюрай тэкст: «Сей ест Аарон, архиерей найвышший сынов Ізраилевых,— брат Моисеев, правнук Леувиев. От него же называется книга сия — Леувит». Сама гравюра тут адрозніваецца ад першага варыянта, змешчанага ў кнізе «Выхад», светлымі прасветамі паміж рукамі Арона і слупамі аркі, а таксама чорна-белымі квадратамі падлогі, на якой стаіць Арон.

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книги четвертые Моисеевы, зовемые Числа»* захаваліся ў 16 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6545—6548);

3) тры ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А5, Щап. 70, Хлуд. 5);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.1);

5) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук ЛітССР;

6) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР;

7) адзін у Адэскай дзяржаўнай навуковай бібліятэцы (№ 1/9066);

8) два ў Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 415, № 070511 і Q. 1180, № 11859/070411);

9) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 963).

У гэтай кнізе змешчана толькі адна арыгінальная гравюра: «Людие Ізраилевы с полки своими около храму божия», якая знаходзіцца на тытульным лісце. Астатнія ж упрыгожанні паўтараюцца з папярэднімі. Так, застаўка да ўсёй кнігі запазычана з кнігі «Ісус Сірахаў», а віньетка да пасляслоўя — з прадмовы да кнігі «Левіт».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книги пятыи Моісеовы, зовемыи от еврей Гельгадворим, по-гречески и — Девтерономос, по-латине Секунда лекс, а по-руски и... Вторый закон»* захаваліся ў 12 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) тры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6549—6551);

3) тры ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А5, Щап. 70, Хлуд. 5);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.1);

5) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 1180, № 11859/070411);

6) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы УССР;

7) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 963).

Як і папярэдняя, гэта кніга таксама не вылучаецца багаццем мастацкага афармлення. Тут ёсць толькі дзве гравюры, адна з якіх змешчана на тытульным лісце (гл. стар. 94) з надпісам: «Моисей навчает людей Ізраилевых Второаго закону», ды паўтораная перад самім тэкстам кнігі застаўка з кнігі «Ісуса Навіна».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

Дзевятнаццатым выпускам Скарыны з'явілася *«Книга о Руфе»*. Да нашага часу захавалася ў 7 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А6);

3) два ў Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.3 і 37.1.17);

4) адзін у Бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта (№ 314128);

5) адзін у Закарпацкім дзяржаўным краязнаўчым музеі (М-434).

На тытульным лісце кнігі змешчана арыгінальная гравюра: «Руф, прабаба царя Давыдова, побирает класы за женци» (гл. стар. 100), а перад тэкстам кнігі— застаўка з «Ісуса Навіна», якая часта паўтараецца ў іншых кнігах.

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книги светого пророка божия Даниила»* да нашых дзён захаваліся толькі ў 8 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 1440, 6318—6320);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А9);

4) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (№ 09/4041). Гэты экземпляр абрываецца на л. 22, а ў сярэдзіне адсутнічаюць лл. 17, 18.

На тытульным лісце кнігі змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 102): «Даниилу, седящему со львы, принесе Аввакум обед». Лл. 1 адв.—4 адв. займае прадмова Францыска Скарыны, у канцы якой паўторана віньетка з кнігі «Іоў», а на л. 5 — застаўка з кнігі «Ісуса Навіна».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книги Есъфер»* захаваліся ў 8 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4[а] і 1.5.4[б]);

2) чатыры ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 1441, 6324, 6325, 6531);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А8);

4) адзін у Закарпацкім дзяржаўным краязнаўчым музеі (М-434).

На тытульным лісце змешчана гравюра (гл. стар. 108) з надпісам: «Есъфер-царица пришла пред Асъвера-царя», якая паўторана ў гэтай жа кнізе яшчэ на л. 18. Там пад ёю змешчан такі тэкст: «Сии же речи, нижей положеные, написаны суть во книгах греческаго и латинъскаго выкладу посполитого. И абы не было уменъшено в руском языку, положил есм яко и в тых писмах все зуполне». Пасля прадмовы перад тэкстам кнігі Скарына змясціў ужо каторы раз гравюрную застаўку з кнігі «Ісуса Навіна», а перад пасляслоўем — знаёмую верхнюю віньетку з прадмовы да кнігі «Прытчы прамудрага Саламона».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а], на старонках якога ёсць запіс «бурмистра» Смаленска Сцяпана Жукава.

*«Книжка, рекомая Плачь Еремиін»* — адно з найбольш рэдкіх выданняў Скарыны. Захавалася толькі ў 4 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4ᵃ і 1.5.4ᵇ);

2) два ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6321, 6532).

На тытульным лісце змешчана гравюра (гл. стар. 110) горада, на пярэднім плане якой знаходзіцца сам прарок. Над гравюрай надпіс: «Еремиа, пророк господень, плачеть, гледя на Ерусалим». На л. 3 пасля прадмовы паўтараецца застаўка з кнігі «Ісуса Навіна».

Перад тэкстам пасляслоўя паўторана віньетка, якая была ўпершыню змешчана пасля прадмовы да кнігі «Левіт».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4ᵃ. У другім ленінградскім экземпляры (1.5.4ᵇ) ёсць уладальніцкі запіс якогасьці смаленскага жыхара Артамона Сямёнавіча Жукава. Запіс датаваны 1663 г.

Апошнім, датаваным 1519 г., пражскім выданнем Скарыны былі *«Книги Судей»*, якія захаваліся ў 9 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4ᵃ і 1.5.4ᵇ);

2) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 6322);

3) адзін у Бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта (№ 314128);

4) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Цар. А6);

5) два ў Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.1.2, 37.1.3);

6) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (Q. 1182, № 070519);

7) адзін у Закарпацкім дзяржаўным краязнаўчым музеі (М-434).

На тытульным лісце змешчана тэматычная гравюра (гл. стар. 114) з надпісам: «Самсон пресилный расторгал льва на пути». У канцы прадмовы паўторана віньетка з кнігі «Іоў», на л. 4—застаўка з кнігі «Ісуса Навіна», а перад пасляслоўем — віньетка з прадмовы да кнігі «Прытчы прамудрага Саламона».

Прадмова і пасляслоўе падаюцца па экземпляру 1.5.4[а].

*«Книга деания и посълания апостольская, зовемая Апостол»,* з якой пачынаецца серыя віленскіх выданняў Скарыны 1525 г., захавалася ў 9 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.7[а] і 1.5.7[б]);

2) два ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 1348, 4356);

3) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Щап. 115, Хлуд. А6);

4) адзін у Бібліятэцы Віленскага дзяржаўнага універсітэта (№ 1323570);

5) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (№ 419/070307);

6) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 821).

У гэтай кнізе, якая ўключае «Дзяянні апостальскія», 7 саборных пасланняў (адно пасланне Якава, два пасланні Пятра, тры пасланні Іаана, адно пасланне Іуды) і 14 пасланняў апостала Паўла, Скарына змясціў 22 свае прадмовы. Але гэтыя прадмовы ён тут чамусьці (за выключэннем самай першай — прадмовы да «Дзяянняў») называе сказаннямі па ўзору некаторых ранейшых прадмоў, змешчаных у частцы выпускаў кніг старога запавету. Да кожнай самастойнай часткі «Апостала», за выключэннем саборнага паслання Якава, другога саборнага паслання Пятра, трох саборных пасланняў Іаана і першага паслання апостала Паўла Цімафею,

ёсць сваё пасляслоўе. Заканчваецца кніга пасляслоўем да ўсяго «Апостала» з указаннем месца і года выдання кнігі. Усіх жа пасляслоўяў тут змешчана 17.

У адрозненне ад пражскіх выданняў у сваіх віленскіх выданнях Скарына надзвычай шырока выкарыстоўвае віньеткі. І сапраўды, іх тут налічваецца больш 20 відаў, прычым кожную з іх Скарына размяшчае яшчэ і ў перавернутым на 180° выглядзе. Такая разнастайнасць ілюстрацыі тэкстаў стварае ілюзію, быццам бы кожная з віньетак з'яўляецца новым узорам.

Як і пражскія, свае віленскія выданні Скарына выпускаў па частках, кожная з якіх мела ўласную пагінацыю. А што гэта было іменна так, сведчыць выданне «Апостала». Так, у прыватнасці, тут па сваёй пагінацыі вылучаюцца тры наступныя часткі. Першая з іх, якая заканчваецца на л. 80, уключае толькі «Дзяянні апостальскія». Другая частка пачынаецца з саборнага паслання Якава. Яна ўключае яшчэ 2 саборных пасланні Пятра, 3 саборных пасланні Іаана і адно саборнае пасланне Іуды. Памер гэтай часткі «Апостала» 36 л. Трэцяя частка «Апостала» змяшчае 14 пасланняў апостала Паўла. Па колькасці надрукаваных старонак гэта самая большая частка кнігі, яна мае 187 л. Такая разбіўка кнігі на часткі дае падставы сцвярджаць, што яна набіралася рознымі асобамі, якія працавалі пад наглядам Скарыны.

Выдадзен «Апостал» фарматам у 8-ю долю ліста, на кожнай старонцы якога змешчана па 20 радкоў тэксту.

Надаючы выключнае значэнне справе мастацкага ўпрыгожання кнігі, Скарына досыць густа змяшчаў у ёй віньеткі. У некаторых месцах «Апостала» можна сустрэць па 2, а часам нават і па 3 віньеткі на адной старонцы. Такая гушчыня іх размяшчэння, як правіла, назіраецца там, дзе перад загалоўкам «Сказання» Скарыны ўжо мелася віньетка, бо ўслед за загалоўкамі перад тэкстам

кнігі, а таксама перад кожным з яе раздзелаў Скарына заўсёды змяшчаў новую, непаўторную для гэтай старонкі віньетку. А кожны новы раздзел кнігі ён пачынаў з мастацкі аформленай вялікай светлай літары, змешчаной у чорнай рамцы, у сярэдзіне якой, акрамя літары, меўся яшчэ малюнак кветкі, лісцяў раслін або гравюрных завітушак.

Усе арыгінальныя віньеткі Скарыны змешчаны ў першай частцы «Апостала», г. зн. у «Дзяяннях апостальскіх». У астатніх жа частках гэтай кнігі і ў пазнейшых выпусках іншых кніг яны паўтараюцца. Так, з дзвюх змешчаных на тытульным лісце віньетак у нашай публікацыі тэкстаў сказанняў Скарыны верхняя віньетка (гл. стар. 118) будзе паўтарацца яшчэ ў сказаннях: да першага саборнага паслання Пятра (стар. 122) і да паслання апостала Паўла ефесіянам (стар. 138). У абодвух выпадках віньетка размешчана паміж загалоўкам і тэкстам сказання Скарыны. Ніжняя віньетка з тытульнага ліста «Апостала» паўтараецца ў сказаннях да пасланняў апостала Паўла: да першага паслання карынфянам (стар. 129), у якім яна змешчана паміж загалоўкам і тэкстам сказання Скарыны; да паслання галатам (стар. 135) яна таксама змешчана пад загалоўкам перад тэкстам; да першага паслання Цімафею, дзе яна пастаўлена друкаром над загалоўкам сказання (стар. 146).

Верхняя віньетка з загалоўка першай агульнай прадмовы да «Апостала» (стар. 117) у нашай публікацыі тэкстаў Скарыны будзе сустракацца яшчэ ў яго трох сказаннях: 1) у сказанні да саборнага паслання Якава (стар. 121) гэта віньетка змешчана паміж загалоўкам і тэкстам сказання; 2) у сказанні да другога саборнага паслання Іаана (стар. 125) яна змешчана ў сярэдзіне загалоўка пасля слоў; «Іоанова в҃» і 3) у сказанні да паслання апостала Паўла Філімону (стар. 149) таксама ў сярэдзіне загалоўка пасля слова: «Посланне».

Ніжняя віньетка з агульнай прадмовы да «Апостала», якая там знаходзіцца пасля загалоўка перад тэкстам прадмовы Скарыны, у нашай публікацыі паўтараецца перад пасляслоўем да пасланняў апостала Паўла карынфянам (стар. 135).

Віньетка, якая аддзяляе тэкст «Дзяянняў апостальскіх» ад тэксту пасляслоўя Скарыны да гэтай часткі «Апостала», паўторана яшчэ перад пасляслоўем да паслання апостала Паўла Ціту (стар. 149), але размешчана яна тут у перавернутым выглядзе.

Віньетка з 29 л. «Дзяянняў апостальскіх» у нашай публікацыі паўтараецца толькі адзін раз і змешчана яна перад пасляслоўем да першага саборнага паслання Пятра (стар. 123). Наступная па ліку віньетка, як і папярэдняя, хоць і досыць часта паўтараецца ў «Апостале», у нашай кнізе публікацый скарынінскіх тэкстаў ужыта толькі пасля загалоўка перад тэкстам сказання Скарыны да другога саборнага паслання Пятра (стар. 123).

Часта ў «Апостале» сустракаецца віньетка, якая змешчана ў сказанні Скарыны да першага саборнага паслання Іаана (стар. 124). Гэта віньетка, якая знаходзіцца тут паміж загалоўкам і тэкстам сказання, паўтараецца яшчэ ў наступных пяці сказаннях Скарыны да пасланняў апостала Паўла: 1) у сказанні да другога паслання карынфянам (стар. 133) паміж загалоўкам і тэкстам сказання; 2) у сказанні да паслання каласаям (стар. 142) перад загалоўкам; 3) у сказанні да другога паслання селунянам (стар. 145), дзе яна змешчана ў сярэдзіне загалоўка пасля слоў: «К селуняном»; 4) у сказанні да другога паслання Цімафею (стар. 147) перад загалоўкам; 5) у сказанні да паслання яўрэям (стар. 150) у сярэдзіне загалоўка пасля слова: «Послания». У першых трох выпадках гэта віньетка пададзена Скарынай у перавернутым выглядзе.

Наступныя пяць віньетак у нашай публікацыі выглядаюць як новыя, паколькі ва ўласных тэкстах Скарыны яны яшчэ не сустракаліся. Першая з іх уведзена Скарынай перад загалоўкам сказання да трэцяга саборнага паслання Іаана (стар. 125), другая — перад загалоўкам сказання да саборнага паслання Іуды (стар. 125). Трэцяя віньетка пастаўлена ў канцы сказання Скарыны да другога паслання карынфянам (стар. 134) перад апошнім радком: «Конець сказанию» і яшчэ раз перад пасляслоўем да паслання апостала Паўла філіпісіянам (стар. 142), але ў перавернутым выглядзе. Чацвёртая віньетка змешчана перад двума пасляслоўямі Скарыны: перад пасляслоўем да паслання апостала Паўла рымлянам (стар. 129) і перад пасляслоўем да першага паслання карынфянам (стар. 132). Пятая віньетка таксама паўтараецца двойчы — першы раз змешчана перад надрукаваным у форме трохвугольніка пасляслоўем Скарыны да паслання апостала Паўла галатам (стар. 138), а другі паміж загалоўкам і тэкстам сказання Скарыны да паслання апостала Паўла Філімону (стар. 149).

У канцы пасляслоўя Скарыны да паслання апостала Паўла галатам (стар. 138) змешчана яшчэ адна віньетка, якая потым паўтараецца перад пасляслоўем да паслання апостала Паўла Філімону.

Віньетка, змешчаная паміж загалоўкам і тэкстам сказання Скарыны да паслання апостала Паўла філіпісіянам (стар. 140), у нашай публікацыі тэкстаў паўторана яшчэ двойчы: адзін раз у сказанні да першага паслання апостала Паўла селунянам (стар. 143), дзе яна змешчана ў сярэдзіне загалоўка пасля слоў «К селуняном»; другі раз над загалоўкам у сказанні да паслання апостала Паўла Ціту (стар. 148).

Віньетка, змешчаная ў першым раздзеле паслання апостала Паўла рымлянам, паўторана перад пасляслоўем да паслання гэтага ж апостала каласаям

(стар. 143). Віньетка з першага раздзела паслання апостала Паўла ефесіянам паўторана перад пасляслоўем да першага паслання апостала Паўла селунянам.

Усяго толькі адзін раз у нашай публікацыі тэкстаў выкарыстана віньетка, якая змешчана ў канцы сказання Скарыны да паслання апостала Паўла яўрэям (стар. 151). Таксама толькі раз выкарыстана віньетка, запазычаная з першага саборнага паслання Пятра, якая знаходзіцца ў канцы пасляслоўя да паслання апостала Паўла яўрэям.

У трох іншых пасляслоўях Скарыны да пасланняў апостала Паўла: у пасланні ефесіянам (стар. 140), у пасляслоўі да другога паслання селунянам (стар. 146), у пасляслоўі да другога паслання Цімафею (стар. 148) і ў агульным пасляслоўі да «Дзяянняў апостальскіх» (стар. 152) віньетак няма ні перад пасляслоўем, ні пасля яго.

Сказанні і пасляслоўі Скарыны да «Апостала» падаюцца па ленінградскаму экземпляру 1.5.7[а]. Выключэнне складае толькі адзін тэкст сказання Скарыны да паслання апостала Паўла рымлянам (стар. 126—129), які ў ленінградскім экземпляры адсутнічае. Гэты тэкст пададзен па экземпляру Дзяржаўнага гістарычнага музея (Хлуд., А6).

Другой, асобна выдадзенай у Вільні кнігай Скарыны быў так званы *«Соборник»*. Гэта кніга, якая прымыкала да «Апостала» і ў якасці састаўной часткі ўваходзіла ў яго тагачасны кананічны змест, была надрукавана ў 8-ю долю ліста. Яна змяшчала ў сабе 48 л. друкаванага тэксту на ўсе выпадкі царкоўнага набажэнства.

Ленінградскі экземпляр «Саборніка» сапсаваны. У ім няма першых пяці лістоў, у ліку іх — тытульнага ліста, прадмовы ці сказання Скарыны і пачатку ўласнага тэксту самой кнігі. У адрозненне ад усіх іншых скарынінскіх выпускаў кніг «Бібліі» ў гэтай кнізе ёсць два

пасляслоўі: адно на л. 24 адв. перад раздзелам «Пяцідзесятніца», другое — у канцы кнігі на л. 48. Першае пасляслоўе аддзяляецца ад тэксту кнігі верхняй віньеткай з агульнай прадмовы да «Апостала», а другое, надрукаванае чырвонай фарбай, суправаджаецца віньеткай, змешчанай перад пасляслоўем да паслання апостала Паўла каласаям.

*«Малая подорожная книжица»* была апошнім віленскім выданнем Францыска Скарыны. Выдавалася яна ў 12-ю долю ліста асобнымі самастойнымі часткамі з уласнымі тытульнымі лістамі і незалежнай пагінацыяй.

У склад гэтага зборніка, як аб тым сведчыць яго досыць падрабязны змест, Скарына ўключыў «Псалтыр», «Часасловец», «Акафісты», «Каноны», «Шасцідзённік», сцiслыя «Святцы» і «Пасхалію». Але ці былі яны аб'яднаны самім выдаўцом у адзіную кнігу і ці быў надрукаваны Скарынаю агульны да ўсяго зборніка тытульны ліст з загалоўкам «Малая подорожная книжица», нам невядома, паколькі слядоў такога тытульнага ліста не захавалася. Што датычыцца самой назвы гэтага зборніка, якая ўжо даўно трывала ўвайшла ў навуковы ўжытак, то яна паходзіць з таго загалоўка, які ўжыў сам Скарына ў прыведзеным пасля «Пасхаліі» падрабязным змесце.

Не ўсе часткі «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны ў аднолькавай ступені захаваліся да нашага часу як па колькасці, так і па якасці. Па колькасці ў гэтых адносінах першае месца займае *«Псалтыр»,* 6 экземпляраў якога знаходзіцца зараз у наступных кнігасховішчах:

1) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª);

2) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2044);

3) адзін у Музеі ўкраінскага мастацтва (№ 420/070308);

4) адзін у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР (37.3.3);

5) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 2);

6) адзін за межамі СССР — у Бібліятэцы Кембрыджскага універсітэта.

Да «Псалтыра» ёсць тытульны ліст, на якім з чатырох віньетак з «Апостала» скампанавана прамавугольная рамка, а ў ёй змешчан наступны загаловак: «Починаеться Псалътырь или песни святого пророка божия Давыда, царя Ерусалимъска, о Христе». Увесь гэты загаловак «Псалтыра» разбіт на 6 радкоў. Верхні і ніжні абрысы рамкі займаюць адпаведна віньеткі з тытульнага ліста «Апостала». Левая бакавая віньетка рамкі ўзята з пасляслоўя да паслання апостала Паўла рымлянам, а правая — з пасляслоўя да паслання яўрэям. На адваротнай старонцы тытульнага ліста пачынаецца «Предъсловие во Псалтырь» Скарыны, якое заканчваецца на л. 3 адв. віньеткай з пасляслоўя да паслання апостала Паўла каласаям. Гэта прадмова да «Псалтыра» 1525 г. з'яўляецца скарочаным і крыху падрэдагаваным варыянтам прадмовы Скарыны да «Псалтыра» пражскага выдання 1517 г. У канцы л. 140 змешчана пасляслоўе Скарыны, якое аддзяляецца ад тэксту «Псалтыра» віньеткай, запазычанай з другога паслання апостала Паўла селунянам (стар. 145).

Прадмова і пасляслоўе Скарыны да «Псалтыра» 1525 г. падаюцца па экземпляру Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8[а], інв. № 255).

Другой па ліку састаўной часткай гэтага зборніка ідзе *«Часасловец»*, які захаваўся таксама ў 6 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8[а] і 1.5.8[б]);

2) два ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2044, 2045);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430);

4) адзін у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (ф. 1250, № 2).

У ленінградскім камплекце (інв. № 256), дзе разам з «Часаслоўцам» пераплецены ўсе астатнія часткі «Малой падарожнай кніжыцы», экземпляр «Часаслоўца» сапсаваны. У ім адсутнічае першы ліст. Па сваёй пагінацыі тут выдзяляюцца тры часткі: дзве па 28 л. і адна ў 4 лісты. У канцы другой часткі «Часаслоўца» на л. 28 пасля віньеткі, якая ўжо была змешчана ў прадмове Скарыны да другога паслання апостала Паўла карынфянам, пачынаецца тэкст пасляслоўя, а потым на чатырох непранумараваных друкарамі лістах ідзе тэкст канона *«Пресвятей богородици».*

Трэцяя частка «Малой падарожнай кніжыцы» пачынаецца серыяй акафістаў і канонаў, размешчаных папарна, але з незалежнай у кожнай пары пагінацыяй, прычым у кожным акафісце ёсць свой тытульны ліст, некаторыя з іх нават аздоблены мастацкімі гравюрамі.

Першы па ліку *«Акафіст живоносному гробу господню в неделю»* захаваўся ў 3 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8[а] і 1.5.8[б]);

2) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

На тытульным лісце з левага боку змешчана гравюра з ізабражэннем маткі боскай, якая на левай руцэ трымае Ісуса Хрыста, а крыху ніжэй маткі боскай у ніжніх вуглах гравюрнай рамкі два песнапеўцы ў царскіх каро-

нах на галавах, павернутыя тварамі адзін да другога. Сама рамка складаецца з трох арыгінальных віньетак. Верхняя і ніжняя з іх прадстаўляюць сабою арнамент з трохвугольнікаў, праз якія прасвечваюцца палавінкі яркага сонца. А правая віньетка скампанавана з дэкаратыўнай хвалепадобнай галінкі, наверсе якой у гняздзе стаіць бусел з прыпаднятымі крыху крыламі. Знізу па галінцы да буслінага гнязда бяжыць лісіца. Паміж правай віньеткай і гравюрай у 7 радкоў змешчан наступны загаловак: «Починаются акафісты на всю неделю. Первый живоносному гробу господню».

Тэкст акафіста заканчваецца на л. 12 адв. пасляслоўем Скарыны, якое аддзяляецца ад тэксту акафіста прабелам у адзін друкаваны радок.

За акафістам ідзе суправаджаючы яго *«Канон живоносному гробу господню»,* які заканчваецца на л. 8 адв. пасляслоўем Скарыны. Паміж тэкстамі канона і пасляслоўя змешчана віньетка, якая папярэднічае пасляслоўю да першага паслання апостала Паўла селунянам. Гэты *«Канон живоносному гробу господню»* захаваўся ў 4 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8ᵇ);

2) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2045);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

Наступная пара — *«Акафіст святому архангелу Михаілу»* і *«Канон святому архангелу Михаилу со всеми небѣсными чины»* — захавалася таксама ў 4 экземплярах.

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8ᵇ);

2) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2045);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

Тытульны ліст акафіста мастацкага ўпрыгожання не мае. Сам загаловак тут надрукаваны ў 6 радкоў у выглядзе трохвугольніка, павернутага адным з сваіх вуглоў уніз.

Паслясловуі ў акафісце на л. 12 адв., а ў каноне на л. 8 аддзяляюцца ад папярэднічаючых ім тэкстаў прабелам у адзін друкаваны радок.

З трэцяй пары *«Акафіст чесному и въсехвалному пророку Предтечи и крестителю господьню Іоанъну»* захаваўся ў 4 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8[а] і 1.5.8[б]);

2) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2045);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

А суправаджаючы гэты акафіст канон захаваўся толькі ў 2 экземплярах:

1) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8[а]);

2) другі ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Хлуд. Д-142).

Ленінградскі экземпляр *«Канона Іоанну Предтечи»* сапсаваны. У ім няма першых двух лістоў.

Паслясловуі Скарыны, змешчаныя ў акафісце на л. 12 адв., а ў каноне на л. 8, аддзяляюцца ад папярэднічаючых ім тэкстаў прабелам у адзін друкаваны радок.

Чацвёртая пара — *«Акафіст богородици»* і суправаджаючы яго *«Канон благодарствен пречистѣй богородици»*, — як і папярэдняя, захавалася не ў аднолькавай колькасці экземпляраў. «Акафіст богородици» ў трох экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8б);

2) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

*«Канон благодарствен пречистѣй богородици»* ў 4 экземплярах:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8б);

2) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430, Хлуд. Д-142).

На тытульным лісце гэтага акафіста змешчана гравюра, у правым вугле якой у задуменні сядзіць багародзіца, а ў левым — з кіем у руцэ і ўзнятым указальным пальцам правай рукі змешчан архангел Гаўрыіл. Праз адчыненае вакно ў пакой багародзіцы ляціць на крылах дух боскі. Пад гравюраї подпіс: «Благовестуеть Гавріл прѣчистоі девици богородици Марии».

Пасляслоўе да акафіста надрукавана на л. 12. адв. трохвугольнікам у 6 радкоў без віньетак. Пасляслоўе ж да канона, змешчанае на л. 8 адв., мае знізу віньетку (стар. 134), якая досыць часта сустракаецца ў «Апостале», а зверху тэкст пасляслоўя аддзяляецца ад тэксту канона прабелам у адзін друкаваны радок.

Пятая пара — *«Акафіст светому верховному апостолу Петру и Павлу и вьсем апостолом 12»* і *«Канон святым верховным апостолом»* — дайшла да нашага часу ў 4 экземплярах. Акафіст захаваўся:

1) у двух экземплярах у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8б);

2) адзін у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2045);

3) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

Экземпляры названага канона знаходзяцца:

1) два ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8ᵇ);

2) два ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430, Хлуд. Д-142).

Тытульны ліст акафіста, пасляслоўе да акафіста (л. 16 адв.), пасляслоўе да тэксту канона (л. 8) мастацкага аздаблення тут не маюць. Пасляслоўі да папярэднічаючых ім тэкстаў аддзяляюцца прабелам у адзін друкаваны радок.

Шостую пару складаюць *«Акафіст великому чудотворцу Николе»* і *«Канон святому Николе»*. Захаваліся яны ў тых жа трох месцах:

1) два экземпляры акафіста і канона ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8ᵇ);

2) па аднаму экземпляру ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2045);

3) два экземпляры акафіста (Меньш. 1430, Хлуд. Д-142) і адзін экземпляр канона (Меньш. 1430) у Дзяржаўным гістарычным музеі.

Як і ў папярэдняй, пятай пары акафіста з канонам, у гэтай пары таксама ні на тытульным лісце да акафіста, ні перад пасляслоўем (л. 12 адв.) да яго віньетак няма. Пасляслоўе да канона (л. 7 адв.) аддзяляецца ад тэксту канона віньеткай, з якой мы ўжо сустракаліся пасля пасляслоўя Скарыны да паслання апостала Паўла яўрэям. Л. 8 канона займае тэкст малітвы вялікаму цудатворцу св. Міколу.

Сёмую пару трэцяй часткі «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны складае *«Акафіст чесному и животворящему кресту господню»* і суправаджаючы яго *«Канон чесному и животворящему кресту»*. Захаваліся яны ў 4 экземплярах у двух кнігасховішчах:

1) дзве пары ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8ª і 1.5.8ᵇ);

2) дзве пары ў Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430, Хлуд. Д-142).

Тытульны ліст да акафіста, як і ў папярэдніх парах, аформлен адным толькі загалоўкам, надрукаваным у 6 радкоў у выглядзе знаёмага нам ужо трохвугольніка. На л. 16 адв. акафіста і на л. 8 канона пададзены пасляслоўі і ў абодвух выпадках без віньетак праз прабел у адзін друкаваны радок.

Апошняя, восьмая, пара трэцяй часткі «Малой падарожнай кніжыцы» ўключае акафіст і канон Ісусу Хрысту. Акафіст з гэтай пары дайшоў да нас у 4, а канон толькі ў 3 экземплярах:

1) два экземпляры акафіста (1.5.8[а] і 1.5.8[б]) і адзін экземпляр канона (1.5.8[а]) у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына;

2) адзін экземпляр акафіста ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна (№ 2044);

3) адзін экземпляр акафіста (Хлуд. Д-142) і два экземпляры канона (Меньш. 1430, Хлуд. Д-142) у Дзяржаўным гістарычным музеі.

На тытульным лісце акафіста змешчана гравюра, у цэнтры якой сядзіць матка боская з Ісусам Хрыстом, а паабапал яе стаяць два анёлы. Пад гравюраю ў 4 радкі надрукаван загаловак: *«Починаеться акафіст пресладкому імени господа нашего Ісуса Христа, глаголемы по вся дни»*. Тэкст акафіста заканчваецца віньеткай са сказання Скарыны да паслання апостала Паўла філіпісіянам, за якой на тым жа л. 12 змешчана пасляслоўе да акафіста.

У ленінградскім камплекце выданняў Скарыны канон з гэтай апошняй пары сапсаваны, у ім адсутнічае першы ліст. Перад пасляслоўем да канона Ісусу Хрысту на л. 8 адв. змешчана віньетка, якая ўпершыню была ўжыта Скарынаю на л. 29 «Дзяянняў апостальскіх». Тэкст пасляслоўя надрукаван чырвонай, кінаварнай фарбай.

Чацвёртай састаўной часткай «Малой падарожнай кніжыцы» ўслед за акафістам і канонамі ідзе «Шасцідзённік» (*«Шестодневець кратъкій на всу неделю, почениш от суботы, по обычаю всех восточних церквий»*. Гэты зборнік захаваўся да нашага часу толькі ў 2 экземплярах:

1) адзін у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8а);

2) адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі (Меньш. 1430).

Зборнік без прадмовы і пасляслоўя займае 36 л. друкаванага тэксту. На тытульным лісце змешчана рамка, скамбінаваная з наступных 4 віньетак: верхняя віньетка ўзята з тытульнага ліста «Апостала» [там верхняя], ніжняя — са сказання Скарыны да саборнага паслання Іуды, левая бакавая — з пасляслоўя да паслання апостала Паўла рымлянам, а правая бакавая — з пасляслоўя да паслання апостала Паўла яўрэям. Заканчваецца тэкст «Шасцідзённіка» віньеткай (гл. стар. 163), узятай з л. 60 адв. «Дзяянняў апостальскіх».

У ленінградскім камплекце выданняў Скарыны пасля «Шасцідзённіка» змешчан тэкст *«Канона покаяльного»*.

Пасля «Канона покаяльного» тут на 4 непранумараваных лістах пададзен тэкст суботняга *«Канона, глаголемого на утрені, глас 8»*. Канон гэты захаваўся ў адным толькі экземпляры.

Пятай састаўной часткай «Малой падарожнай кніжыцы» з'яўляюцца так званыя *«Святцы сціслыя»* на ўвесь год. Адкрываюцца яны тытульным лістом, на якім змешчана рамка, скамбінаваная таксама з 4 віньетак. Адрозніваецца гэта рамка ад рамкі тытульнага ліста «Шасцідзённіка» толькі сваёй ніжняй папярочнай віньеткай. У святцах яна заменена віньеткай, узятай са сказання Скарыны да першага саборнага паслання Іаана.

У рамцы тытульнага ліста святцаў змешчан наступны загаловак: *«Последование церковнаго собърания въселетънаго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви»*, які разбіт тут на 7 друкаваных радкоў.

Нам невядома, ці захаваліся яшчэ дзе экземпляры святцаў Скарыны, акрамя экземпляра Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8а).

Ленінградскі экземпляр гэтага выдання сапсаваны. Тут на кожным ліцавым лісце,—а ўсяго іх у кнізе 13,— ніжнія правыя вуглы абарваны месцамі да 6 радкоў па вертыкалі і да 10—15 друкаваных знакаў па гарызанталі. Як і «Шасцідзённік», святцы надрукаваны без прадмовы і пасляслоўя.

Гэта частка «Малой падарожнай кніжыцы» цікава тым, што ў ёй на кожным лісце перад патронамі святых Скарына падаваў астранамічныя звесткі аб даўжыні дня і ночы кожнага канкрэтнага месяца, колькасці дзён у месяцы і руху нябесных сузор'яў у гэты час. Скарыне ўжо вядома сістэма высакосных гадоў, і таму на л. 6 адв., дзе гутарка вядзецца пра святых, памяць аб якіх адзначаецца ў лютым, ён не выпадкова зазначае, што «Месець февраль імать дни 28, аще прилучится на четверты год висекст, тогда сей месець има 29 дни. День же вначале его имаеть годин 9, а дробных (г. зн. мінут.— *А. К.*) 6, в нощи ж — 14, дроб[ных] 54. Знамена бегу солнъцева — Водолей и Рибы».

З апошняй, шостай састаўной часткі «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны ў ленінградскім экземпляры (1.5.8а) захавалася толькі адна першая старонка, змешчаная на л. 13 адв. святцаў, ніжні левы вугал якой абарваны. Перад загалоўкам тут змешчана віньетка са сказання Скарыны да другога паслання апостала Паўла карынфянам.

Унікальным з'яўляецца і пасляслоўе да ўсяго зборніка — *«Писаныи речи в сей малой подорожной книжице по ряду кратце положены суть»*. Яно захавалася толькі ў адным экземпляры ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.8а) і займае ў ім 6 непранумараваных старонак. У загалоўку пасля слоў «Писаныи речи» змешчана віньетка з пасляслоўя да першага саборнага паслання апостала Пятра.





ЗМЕСТ



ТЭКСТЫ

ДАДАТАК





**Скарына Ф.**

**С42** Прадмовы і пасляслоўі. Мінск, «Навука і тэхніка», 1969.

240 с. з іл. (АН БССР. Інстытут літаратуры імя Я. Купалы). 1200 экз. 70 к. У перапл.

У кнізе змешчана 111 літаратурна-публіцыстычных артыкулаў беларускага першадрукара Францыска Скарыны, якімі ён суправаджаў свае выданні кніг Бібліі ў Празе (1517—1519) і Вільні (1525). Кніга багата ілюстравана гравюрамі, застаўкамі і віньеткамі, узятымі са скарынінскіх выданняў.

7-2-2 / 75-69 002